

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 13 кастрычніка 1989 г. № 41 (3503) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.





## Матчына песня, радзінная...

Ужо на другі дзень пасля прыезду ў сталіцу Беларусі Данчык са сваімі сябрамі Лявонам Барткевічам і Сержуком Сокалавым-Воюшам выступаў у гасцёўні Галубка. Хто быў у той незвычайнай кватэры, дзе гаспадарыць мастак Анатоль Налівaeў, дзе столькі партрэтаў працаўнікоў беларускай культуры, той зможа зразумець, што ў славутага госця з Нью-Йорка была добрая магчымасць ужо з першых крокаў паўглядацца ў твар Беларусі...

6 кастрычніка ў Доме літаратара прымалі Данчыка. Як у гасцёўні, як і ў канцэртах на Беларусі і за яе межамі, тут яны таксама спявалі ўтрох: Данчык, Лявон і Сяржук. Барткевіч і Сокалаў-Воюш — свае, хатнія і, веру, не крыўдавалі, што кожны раз найбольшая ўвага скіроўвалася на Данчыка. Яго чакалі ў нас добры дзесятак гадоў. Аднаго разу песнямі Данчыка быў ужо заваяваны беларускі абшар Беласточчыны, да Гродна заставалася рукой падаць... Але сумежжа і мяжа былі рознымі рэчамі да перабудовачнага мыслення.

Не ведаю, як бы з гэтай нагоды скаламбурыў Уладзімір Караткевіч, адзін з літаратурных герояў якога «прызямліўся ў Гародні», але можна сказаць, што нарэшце Данчык удала «прызямліўся ў Менску». Да таго ж не як іншапланецянін, не толькі як прадстаўнік Новага Свету, а як чалавек блізкі нам, як суродзіч.

Вітаючы Данчыка, Ніл Гілевіч гаварыў, што яго імя доўга было для нас легендай. Ён назваў Данчыка прадаўжальнікам справы Міхала Забэйды-Суміцкага. Прысутныя былі цалкам згодныя з высновай Н. Гілевіча, што нельга нараказць на лёс Беларусі, лёс беларускай песні, калі ёсць такія таленавітыя спевакі, як Данчык. Хочацца верыць, што мы яшчэ многа разоў будзем мець магчымасць слухаць голас Данчыка пад час яго сустрэч з Беларуссю.

Беларускім салаўём назваў госця са Злучаных Штатаў Амерыкі пісьменнік Барыс Сачанка, які быў вядучым песеннага вечара ў Доме літаратара. Доўгі час само слова «эміграцыя» мела ў нас нейкі страхотлівы сэнс. Б. Сачанка пытаецца пра становішча беларускай эміграцыі ў ЗША — і ад Багдана Андрусішына, ад маці Данчыка — «спадарыні Юлі», як кажуць, з першых вуснаў чуем імёны паэткі Наталлі Арсенневай, мастака Пётры Мірановіча; «сведамыя» беларусы ў далёкай Амерыцы маюць свае культурныя цэнтры «Менск» і «Полацак», ансамбль «Васілёк», шануюць нацыянальныя традыцыі, культуру, мову.

Верыцца, што талент Данчыка неабходны сёння, як злучальная сіла кантынентаў, а не толькі для таго, каб расчуліць слухачоў на Бацькаўшчыне ці ў эміграцыі. Наш час не для «выціскання слязы» і выцкавання зайздроснікаў. Усё надзейней усталёўваюцца гуманістычныя ідэі такіх «людзей свету», як Забэйда-Суміцкі, як Данчык. Іх крэда — служыць агульначалавечым ідэалам, выхаванню паразумення, высакароднасці, духоўнага ўзлёту...

На сцэне Дома літаратара дасціпна жартаваў, адказваў на пытанні не толькі «беларускі салавей». Данчык столькі разоў Данчык, колькі ён ведае песень — французскіх, англійскіх, іспанскіх, украінскіх, беларускіх...

(Працяг на стар. 2).

# БАЛАНС УСТОЙЛІВАСЦІ

**Гутарка з народным дэпутатам СССР Леанідам ДЗЮСАВЫМ**

— Рабочы чалавек не так лёгка верыць абяцанкам. Я пра гэта ўжо сказаў. Што тычыцца вытворчых акруг, дык я пра іх нічога пэўнага не ведаю. Але ўсё роўна, стаю на тым, што палову дэпутацкіх мандатаў трэба аддаць рабочым. Прааналізуйце апошнія падзеі, якія ўскалыхнулі ўсю краіну, — маю на ўвазе забастоўкі шахцёраў. Вы ж ведаеце, яны стварылі забастовачныя камітэты, якімі фактычна замянілі і прафсаюзныя, і партыйныя, і савецкія органы. Забастовачныя камітэты на 80—90 працэнтаў складаюцца з рабочых. Дык чаму мы павінны мірыцца з тым, што ў Саветах іх у шмат разоў меней?

**— Вельмі складанае для мяне пытанне, Леанід Лявонавіч. Зноў у дэпутаты даярку толькі за тое, што яна даярка? Або сталявара толькі таму, што ён стаханавец? Дарэчы, на першым З'ездзе народных дэпутатаў сёй-той з высокай трыбуны спрабаваў даводзіць, што, напрыклад, дэпутату-прафесару не могуць быць блізкія інтарэсы рабочых і сялян. Гэтая «тэорыя», здаецца, не мела падтрымкі на З'ездзе. І ў думках не хачу вас, Леанід Лявонавіч, пакрыўдзіць, але, пагадзіцеся, імем рабочага класа часам спекулююць. Сам быў сведкам, як на мітынг, арганізаваны БНФ, падвезлі на аўтобусах рабочых, якія выкрыкамі імкнуліся той мітынг сарваць. А подпісы рабочых пад газетнымі «водгукамі», накіраванымі супраць Васіля Быкава, Алеся Адамовіча, наогул, творчай інтэлігенцыі?**

— Вы ўпэўнены, што гэта рабочыя? Зрэшты, і рабочыя бываюць розныя. Калі ля прахадной нашага завода стаялі пікеты РСБ, да мяне падышоў сталы рабочы і кажа: «Бачыў, там нейкія дармаеды збіраюць подпісы. Гнаць трэба іх...» Так што я заклікаю выбіраць рабочых сапраўды актыўных, разумных. Нарэшце, у нашага рабочага, як правіла, цяпер сярэдняя адукацыя, ён умее далёка бачыць, умее аналізаваць, заўсёды падтрымае закон, які накіраваны на паляпшэнне жыцця народа. Так, генерыраваць ідэі, фармуляваць законы павінны пераважна людзі дасведчаныя ў юрыспрудэнцыі, сацыялогіі, палітыцы, эканоміцы, адным словам, інтэлектуалы. Але ж трэба. каб ідэі ператвараліся ў матэрыяльную сілу. Ведаеце, у кожным механізме ёсць баланс устойлівасці. Скажам, у дызельных рухавіках, якія мы выпускаем, ёсць так званы махавік — гэткі вялікі кавалак метала, які круціцца і згладжвае ўсе штуршкі, якія ў час работы атрымлівае цыліндр рухавіка. Такі балансіровачны механізм павінна мець і грамадства, вярхоўны орган улады. А то што атрымліваецца — Прыбалтыка змагаецца за свае інтарэсы, Малдавія — за свае, Арменія і Азербайджан — таксама.

**— Вы лічыце, што калі б дэлегацыі народных дэпутатаў з Арменіі і Азербайджана складаліся з рабочых, яны б хутчэй дамовіліся, перасталі б канфрантаваць? Але ж не пісьменнікі, не вучоныя ў Закаўказзі перакрываюць дарогі, узрываюць чыгуначнае палатно, абстрэльваюць цягнікі. Я думаю, Леанід Лявонавіч, што на вярхоўны орган улады праецыруюцца складаныя працэсы, якія адбываюцца ў грамадстве. Невыпадкова першы З'езд народных дэпутатаў адразу падзяліўся на некалькі лагераў. Вы да якога належалі, Леанід Лявонавіч?**

— Падзел гэты ўмоўны. Я, напрыклад, галасаваў за многія прапановы так званай маскоўскай групы дэпутатаў. Большасць З'езда галасавала супраць. Гэтую большасць неўзабаве ахрысцілі агрэсіўна-паслухмянай. Так, сапраўды, было нямала дэпутатаў, якія ў штыкі сустракалі кожную прапанову, якая, на іх думку, разыходзілася са звычнымі стэрэатыпамі. Але мне здаецца, што маскоўская група зрабіла некалькі тактычных памылак. Яна амаль не ўступала ў кантакт з «правінцыяй», ставілася да яе пагардліва. Так, прынамсі, гаварылі (і я гэта чуў) многія дэпутаты Цэнтральнай Расіі, Далёкага Усходу, Сярэднеазіяцкіх рэспублік. Мне падалося гэта спачатку смешным, несур'ёзным. Знайшлі месца, дзе выказваць свае крыўды, свае амбіцыі. Але кажу праўду, так яно было. Пасля масквічы, праўда, пачалі завязваць знаёмствы з дэлегатамі іншых раёнаў, ды час, відаць, быў упушчаны.

**— Мы напярэдадні новага З'езда народных дэпутатаў. Якая, на вашу думку, будзе там расстаноўка сіл?**

— Як кажуць, пажывём — убачым. Але думаю, што лагер «агрэсіўна-паслухмянай большасці» паменшыцца. Ад таго, што гаварылі з трыбуны З'езда А. Сахараў, Ю. Афанасьеў, А. Адамовіч, М. Шмялёў, Г. Папоў і некаторыя іншыя, не так лёгка цяпер адмахнуцца. Аўтарытэту ў прадстаўнікоў апарату, якія імкнуліся на З'ездзе павесці за сабой частку дэлегатаў, не прыбавілася. Ну і стварэнне міжрэгіянальнай дэпутацкай групы на чале з Б. Ельцыным, — таксама фактар, які трэба ўлічыць.

**— Як я зразумеў, Леанід Лявонавіч, вы не належыце ні да адной дэпутацкай групоўкі. Ну, а як наконт уплыву на вас вялікага рэспубліканскага начальства, якое таксама ўлілося ў дэпутацкі корпус?**

— Зразумейце, час цяпер іншы. Хто з таго, як вы гаворыце, начальства возьме на сябе рызыку дыктаваць, хай і «свайму», дэпутату? А калі гэта ўсплыве? Не, я быў абсалютна свабодны ў сваім выбары, галасаваў за тое, што, на маю думку, магло прынесці карысць краіне, Беларусі.

**— Шматлікія публікацыі ў прэсе, тэлетрансляцыі са З'езда, сесій Вярхоўнага Савета нібы наблізілі да нас дэпутатаў, многіх на экране мы пачалі пазнаваць у твар, запамінаць іх прозвішчы. Але мне не ўсё ў дзейнасці, абавязках народнага дэпутата зразумела. У Вярхоўны Савет вы не трапілі, так? А ў камісію ці камітэт?**

— Таксама не трапіў, хоць і выказаў жаданне працаваць у адной з камісій.

**— І што?**

— А нічога. У спісах мяне не было. Так што я радавы народны дэпутат.

**— І тут ёсць радавыя?..**

— Я, вядома, жартую, але ж закона аб статусе народнага дэпутата яшчэ няма...

**— Я літаральна днямі быў на сустрэчы народнага дэпутата А. Жураўлёва з выбаршчыкамі, дык там яму задалі такое ж пытанне. Ён адказаў, што ёсць сілы, якія зацікаўлены ў тым, каб адцягнуць з'яўленне такога закона.**

— Вось бачыце... Ва ўсякім разе, мае паўсядзённыя абавязкі народнага дэпутата амаль нічым не адрозніваюцца ад абавязкаў ранейшых дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Вяду прыём у райвыканкоме. Прыходзяць на яго чалавек па трыццаць. Кожны са сваім клопатам — дрэнная кватэра, не можа трапіць у бальніцу, не бяруць на працу і г. д. Сяджу, выслухоўваю, запісваю, накіроўваю ў адпаведныя інстанцыі. Але, разумееце, вырашаць гэтыя пытанні — кампетэнцыя мясцовых Саветаў. Ды хапае там бюракратаў, якім абы адфутболіць чалавека. А той адразу да мяне. Некаторыя лічаць — калі народны дэпутат, дык усё можа. Нават абысці закон.

**— Многія народныя дэпутаты, якія не з'яўляюцца членамі Вярхоўнага Савета, прысутнічаюць на сесіі, нават выступаюць там. Вось той жа А. Жураўлёў. А вы?**

— Я — не. І потым, Аляксандр Рыгоравіч Жураўлёў — член адной з камісій Вярхоўнага Савета. Ён прафесар, доктар эканамічных навук.

**— Вы лічыце, што прафесар можа сабе дазволіць пастаянна знаходзіцца ў Маскве, а дэпутат-рабочы — не?**

— Мог бы і я паехаць, пабыць на сесіі Вярхоўнага Савета, з працы адпусцілі б. Але як я потым буду глядзець у вочы таварышам па цэху? Мы працуем, а ты ў сталіцы сядзіш? Мая асабістая думка — народны дэпутат павінен быць вызвалены ад сваёй асноўнай працы. Інакш атрымліваецца, што я дэпутат на грамадскіх пачатках.

**— Вядома, вы сочыце за ўсімі перыпетыямі цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета...**

— Не толькі сачу, але і ўважліва вывучаю стэнаграмы пасяджэнняў, якія мне дасылаюць з Масквы.

**— Парадак дня цяперашняй сесіі надзвычай напружаны. Яна павінна абмеркаваць шэраг жыццёва важных законапраектаў: аб уласнасці, аб зямлі, аб арэндзе і арэндных адносінах, падаткавай сістэме, сацыялістычным прадпрыемстве, нарэшце закон аб забастоўках. Як да гэтай праблемы ставяцца, на вашу думку, беларускія рабочыя?**

— Мне цяжка гаварыць за ўсю рэспубліку, але ж вы, мабыць, чулі, што забастоўкай пагражалі салігорскія шахцёры, рабочыя ў іншых гарадах, у прыватнасці, у Чарнобыльскай зоне. Мае адносіны да гэтай формы барацьбы рабочага класа за свае правы? Адназначна тут не адкажаш. Усе мы разумеем, што пры нашай форме ўласнасці кожная забастоўка моцна б'е па эканоміцы, а значыць, і па ўсіх нас. Але, як крайнюю меру, я дапускаю і такі аргумент. Я ўважліва прачытаў праект Закона СССР «Аб парадку вырашэння працоўных спрэчак (канфліктаў)» і знайшоў там шмат цікавага. Закон, напрыклад, прадугледжвае рэальны ўдзел працоўных калектываў у кіраўніцтве вытворчасцю, стварае лепшыя ўмовы для вядзення прадуктыўнага дыялога паміж рабочымі і адміністрацыяй. Яшчэ. Прадугледжана, што адкласці правядзенне забастоўкі ці прыпыніць яе на тэрмін да двух месяцаў можа толькі Вярхоўны Савет СССР ці саюзнай рэспублікі. Праўда, мне не зусім зразумелае стварэнне так званых прымірэнчых камісій. Хто павінен у іх уваходзіць, браць на сябе ролю арбітра? Партыйныя і прафсаюзныя органы? Калі яны, то ці паверaць ім рабочыя?

**— Вялікія надзеі ўскладаюцца на рэгіянальны гаспадарчы разлік, які нібыта прывядзе да эканамічнай незалежнасці рэспублікі. Абнародаваны дакумент — дзецішча нашых планавых органаў — праект рэспубліканскага гаспадарчага разліку. Але з той жа гутаркі А. Жураўлёва з выбаршчыкамі я даведаўся, што шэраг народных дэпутатаў з Беларусі апратэставалі праект у Савеце Міністраў СССР.**

— Так, і на маю думку, праект, мае шэраг сур'ёзных хібаў. Я гаварыў пра гэта старшыні Дзяржплана рэспублікі В. Кебічу. Сказаў, між іншым, што рэгіянальны гаспадарчы разлік у тым выглядзе, як яго прапануюць, прывядзе да вымывання танных тавараў, наогул да групавога эгаізму, пра які ў сваім дакладзе на сесіі Вярхоўнага Савета гаварыў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР Л. Варонін. Азначае гэта, што прадпрыемства, ці група прадпрыемстваў, а ў дадзеным выпадку і рэспубліка, ведаючы, што з'яўляецца манапалістам у вытворчасці якойнебудзь прадукцыі, пачынае дыктаваць цэны на яе, не ўлічваючы інтарэсаў спажыўца. І яшчэ. Мне ўспамінаюцца словы народнага дэпутата з Масквы дырэктара Бутаўскага завода будаўнічых матэрыялаў Бачарова (на жаль, не помню яго імя), што пакуль на кожным прадпрыемстве не ўкараніцца гаспадарчы разлік, ні пра які рэгіянальны разлік гаворкі не можа быць. Вядома, аб'явіць, дэклараваць можна ўсё. Гэта мы ўмеем. А што будзе на практыцы? З малога хаосу вырасце вялікі?

**— Але ж на вашым заводзе, здаецца, хаосу няма?**

— Праблем хапае. Ведаеце, якое зараз на прадпрыемствах самае вялікае ўпраўленчае падраздзяленне? Аддзел забеспячэння. Без штурхача, якога пастаянна пасылаюць «выбіваць» метал, фарбу, паліва, камплектуючыя дэталі, завод стане.

**— Недзе я чытаў, што на Захадзе буйныя прамысловыя прадпрыемствы выкарыстоўваюць да 90 працэнтаў камплектуючых дэталей, што ідуць з-за мяжы.**

— Дык гэта ў іх! Тут, бывае, прадпрыемства, пастаўляючае камплектуючыя дэталі, побач, а ўсё роўна клопату з ім... Потым, які можа быць гаспадарчы разлік на прадпрыемстве, дзе састарэлае абсталяванне, пазаўчарашняя тэхналогія, нізкая вытворчая дысцыпліна? А гэта ж тыповая з'ява. Паспрабуйце, ў такіх умовах наладзіць вытворчасць канкурэнтаздольных тавараў.

**— У нас, бывае, канкурыруе дрэннае з дрэнным.**

— У нас! А выйдзі з такім таварам за мяжу? Мяне засмучае, не дае спакою тое, што не спрацоўвае механізм матэрыяльнага заахвочвання рабочых. Здаецца, проста — больш, лепш зрабіў, адпаведна і атрымаў.

**— Намеснік Старшыні Саўміна СССР, наш вядомы эканаміст Л. Абалкін выступіў на сесіі з прапановай фактычна замарозіць рост зарплаты.**

— Гэта кій з двума канцамі. З аднаго боку, можа, гэта і стрымае тэмпы інфляцыі, але з другога — многія рабочыя ўцякуць з прадпрыемстваў у кааператывы. І зараз не хапае кваліфікаваных рабочых, на МТЗ, напрыклад, аж 800 чалавек.

**— Дзе ж выйсце?**

— Трэба пераходзіць на новыя формы ўласнасці, на арэнду з наступным выкупам рабочымі сродкаў вытворчасці, на кааператыўную ўласнасць, акцыянерную, якой нас усе гады палохалі як праявай капіталізму.

**— Я нядаўна прачытаў у адной з газет, што ў Злучаных Штатах Амерыкі ёсць 10 тысяч прадпрыемстваў, якія належаць тым, хто на іх працуе.**

— Вось бачыце... Патрэбны закон аб арэндзе. Арэндадацелем павінна быць дзяржава, не прад'яўляючы пры гэтым ніякіх умоў, акрамя дыферэнцыраванага падатку. Арэнду даваць на 99 гадоў з далейшым працягам. Калі гэта зямля, дык з правам перадачы нашчадкам. Тады нешта можна зрушыць з месца, пераадолець псіхалогію нашага чалавека, які, навучаны жыццём, ні ўва што не верыць. Ды і тут думае: сёння — дадуць, заўтра — адбяруць.

Вы ведаеце, нават і разумныя законы ў нас не спрацоўваюць. Вось той жа закон аб прадпрыемстве. Прымалі, радаваліся. А што атрымалася? Як давалі заводу дзяржаўны заказ на ўсю прадукцыю, так і цяпер даюць. Нашаму заводу — таксама. Сабе нічога не пакінеш, каб можна было прадаць на рынку. Тыя ж калгасы, кааператывы, прамысловыя прадпрыемствы з рукамі адарвалі б нашы маторы. Ды на ўсё — дзяржаўны заказ, усім распараджаецца міністэрства.

**— Ідзе абмеркаванне праектаў Законаў аб выбарах. Якая тут ваша думка?**

— Праекты нашых выбарчых законаў мяне не задаволілі. Скажам, зноў прапануюцца выбары ад грамадскіх арганізацый. Я пра гэта гаварыў у час сваёй выбарчай кампаніі. Чаму адны павінны падстаўляць лоб пад крытыку выбаршчыкаў, а другія атрымліваць дэпутацкі мандат даволі лёгка? Праўда, даводзіцца чуць, што, дзякуючы выбарам ад грамадскіх арганізацый, у нашым парламенце апынулася шмат інтэлектуалаў. Не ведаю. Напрыклад, дэпутаты — прафесары С. Шушкевіч, А. Жураўлёў, юрыст М. Ігнатовіч — прайшлі, як і ўсе мы, горан выбараў і — перамаглі... Я супраць таго, што ў праектах выбарчых законаў у жорсткія рамкі ставяцца праграмы кандыдатаў у дэпутаты, якія, маўляў, павінны строга адпавядаць канстытуцыйным палажэнням. Чаму? А калі тое палажэнне састарэла, не адпавядае сённяшнім рэаліям жыцця? Забараняецца прапаганда байкоту выбараў. А калі народ захоча байкатаваць? На выбарчыя ўчасткі акругі, дзе я балаціраваўся, не прыйшло тысяч дваццаць выбаршчыкаў, занесеных у спісы. Не захацелі — не прыйшлі. Іх справа. Што тычыцца выбараў Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі, старшынь мясцовых Саветаў, дык я за тое, каб іх выбіралі ўсё-такі самі дэпутаты. Праўда, на альтэрнатыўнай аснове. Выберы каторага старшыню гарвыканкома прамым галасаваннем, ён пачне ігнараваць дэпутатаў, маўляў, мяне народ выбіраў...

**— Якую вы, Леанід Лявонавіч, зоймеце пазіцыю на З'ездзе народных дэпутатаў, які адбудзецца яшчэ сёлета?**

— Буду кіравацца толькі інтарэсамі сваіх выбаршчыкаў, да іх прымерваць кожны закон.

**Гутарыў Міхась ЗАМСКІ.**

Чарнобыль: зямля і людзі

# МІННАЕ ПОЛЕ

**У вёску Барталамееўка Веткаўскага раёна нас прывяла чарнобыльская бяда. Хоць і здарылася яна тры гады назад, але і сёння болем адгукаецца ў сэрцах, вярэдзіць душы. І нясуць жыхары свой боль новаму чалавеку: можа, ён што-небудзь параіць, можа, дапаможа выкараскацца з гэтай нягоды. Нямым дакорам стыне пытанне ў іх вачах: што ж гэта такое нарабілася, што ніхто не можа даць рады!..**

...Такі краявід убачыш хіба толькі ў сне. Зялёны поплаў за вёскай. Між поймы ціха нясе свае воды рэчка Бесядзь, якую апеў народны паэт Беларусі Аркадзь Куляшоў. Наўкола, як кінуць вокам, лясы і лясы ў засмужанай далечыні.

Першыя замеры радыеактыўнасці па гама-фоне мы робім поруч з поймай Бесядзі, ля пясчанага кар'ера, адкуль салдаты бяруць пясок для дэзактывацыі. Ім яны пасыпаюць сцяжынкі ля хат, дзе зняты забруджаны мурог.

Першы дзень замеры робім дазіметрам СРП-6801. Але гэта — прыбор шырокага дыяпазону, ён не дае дакладнага малюнка забруджанасці па гамафоне. Таму зрабілі паўторныя замеры ўжо на ДРГ-01Т, разам са спецыялістамі Беларускага філіяла Усесаюзнага навукова-даследчага інстытута сельскагаспадарчай радыялогіі Сяргеем Фёдаравічам Цімафеевым і Аляксандрам Антонавічам Новікам.

У кар'еры ля поймы Бесядзі па паказчыках СРП-6801 гамафон складаў 0,28 мілірэнтгена ў гадзіну, у другім — 1,5 мілірэнтгена.

Аграном саўгаса «Высакаборскі» А. Прыходзька расказвае, што на лугах саўгаса фон хістаецца ад 0,5 да 0,8 мілірэнтгена ў гадзіну, часам перавышае нават 1 мілірэнтген. Першы ўкос сена сеяных траў (заўважце — сеяных!) у 6 разоў перавышае дапушчальныя нормы. Адным словам, гэтае сена ні ў якім разе нельга спажываць. Яго скасілі дзеля таго, каб скасіць, каб у людзей, занятых у сельскай гаспадарцы, было чыстае сумленне.

Наступны наш аб'ект — дзіцячы садзік. Трава, дзе гуляюць дзеці, — 0,28 мілірэнтгена ў гадзіну. (Дарэчы, трава тут нарасла новая, стары мурог знялі ў час дэзактывацыі). У пясочніцы — 0,16 мілірэнтгена. У адной з альтанак — 0,56 мілірэнтгена, у другой — 0,32. Ля дзвярэй садзіка — 0,16, у самім памяшканні — 0,008 мілірэнтгена.

А вось што паказалі замеры па ДРГ-01Т. Старшы навуковы супрацоўнік Беларускага філіяла УНДІ сельскагаспадарчай радыялогіі С. Цімафееў трымае дазіметр у метры ад зямлі, як і належыць па навуцы. Той жа пясчаны кар'ер ля поймы... Над жаўтапесам, у глыбіні кар'ера, дазіметр паказвае 0,084 мілірэнтгена ў гадзіну. Некалькі крокаў у пойму — і ўжо 0,364 мілірэнтгена. Яшчэ з дзесятак метраў да сасонніка — 0,487 мілірэнтгена ў гадзіну. Уражанне такое, нібыта ідзеш па мінным полі і не ведаеш, дзе адбудзецца смяротны выбух.

Лужок у дзіцячым садзіку... 0,067, 0,075, 0,076, 0,092, 0,104 мілірэнтгена ў гадзіну. Здаецца, над лужком раскінулі стракаты радыяцыйны дыван, каб весялей на ім было забаўляцца дзятве. .

Торфабрыкетны завод за два кіламетры ад Барталамееўкі. Рабочыя завода — жыхары вёскі. Ля бункера для сыравіны — 0,542 мілірэнтгена, ля запраўвачнай ГЗМ — 0,390, побач з вагавай, на лавачцы, дзе адпачываюць рабочыя, — 0,414...

Рабочыя з торфабрыкетнага гавораць:

— Цяпер мы чысты брыкет выпускаем. Самы брудны адгрузілі ў першыя два гады жыхарам Веткаўскага, Добрушскага і Чачэрскага раёнаў.

Усюды, куды б мы ні завіталі з дазіметрам, нас адразу ж акружалі людзі. Здаецца, не было для іх большай цікавасці, чым паглядзець на тыя лічбы, што «скакалі» па шкале. Іх паўтаралі, як заклінанне, па некалькі разоў запар, каб не забыцца. Людзей можна было зразумець. Яны адшуквалі больш бяспечныя месцы.

А цяпер пра самае галоўнае. Да аварыі на Чарнобыльскай АЭС у рэспубліцы былі зроблены здымкі натуральнай радыеактыўнасці яе тэрыторыі па гама-фоне. Тады высветлілася, што натуральны радыеактыўны фон (так званая магутнасць экспазіцыйнай дозы выпраменьвання) у БССР вагаецца ў залежнасці ад пунктаў вымярэння ад 0,002 да 0,012 мілірэнтгена ў гадзіну. Варта параўнаць гэтыя лічбы з тымі, якія мы прыводзілі па Барталамееўцы. Максімальная шчыльнасць забруджвання складае тут 82,2 кюры на квадратны кіламетр. Дарэчы, максімальная шчыльнасць забруджвання да аварыі ў Беларусі была 0,5 кюры на квадратны кіламетр.

Як жа тут жывуць людзі? Няхай яны раскажуць пра гэта самі.

Людміла Іванаўна Суглоб, фельчар мясцовага фельчарска-акушэрскага пункта:

— У нашай вёсцы зараз 872 чалавекі, з іх — 248 дзяцей. Пасля аварыі пачасціліся скаргі на здароўе. Вось і сёння зранку ў мяне пабывала пяць чалавек. Гавораць, што ніякай жывасці няма ў целе, у горле нібыта перасела штосьці, хоць тэмпература нармальная. Пасля гэтага, я ўжо ведаю, пачынаюць балець суставы.

Вельмі шмат людзей скардзяцца на слабасць, хуткую стамляемасць, болі ў нырках. У некаторых маладых мужчын 25—27 гадоў крывяны ціск складае 100/60 або 90/60 — гіпатанія. У палавіны дзяцей назіраюцца парушэнні органаў зроку, хранічны танзіліт, нізкі гемаглабін, пастаянныя галаўныя болі, рвота, крывацячэнне з носа. Цяжка пераносяць прастуду.

Валянціна Дзмітрыеўна Сасніцкая, выхавацелька дзіцячага сада:

— У нашым садзіку знаходзяцца дзеці ад паўтара года да 6. З харчаваннем дрэнна. Бульба свая, саўгасная, з забруджанай тэрыторыі. Адтуль жа бяром цыбулю, моркву, буракі і кроп. Рэдка прывозяць свежыя памідоры. Прывазных ягад дзеці і ў вочы не бачылі, яблыкі бываюць восенню, але рэдка. Тры разы на месяц бывае ў нас каўбаса. Свежае мяса таксама рэдкасць. З тушонкай варым першае, запраўляем другое. Сок — па 100—200 грамаў. Часам дзеці просяць дабаўкі, а яе няма. Хіба можна разнастайна накарміць дзіця за тыя грошы, што нам адпускаюць: 84 капейкі ў дзень на аднаго малалетка старэйшай групы і 78 капеек — ясельнай групы?

Валянціна Аляксандраўна Шчаева, бухгалтар саўгаса «Высакаборскі»:

— Атрымліваем мы па 450 грамаў каўбасы ў квартал па дзяржаўнай цане, 750 грамаў грэчкі. Праўда, ёсць кааператыўная каўбаса па 6 рублёў 10 капеек кілаграм і па 7-70. Не з нашымі капіталамі яе купляць. Мяркуйце самі: мой муж, які працуе механізатарам, атрымлівае ў месяц 130 рублёў. Я — 112 рублёў. Плюс даплата па 30 рублёў, якія ў нас называюць «грабавымі». А ў сям'і — пяць душ. Не разгонішся дужа, калі ўсё купляць у магазіне.

А што рабіць паляводам, у якіх зарплата па 60—70 рублёў? Ці механізатару Карнею Лапіцкаму, у якога дзяцей за дзень на печ не перакідаеш? А ён жа атрымлівае ўсяго толькі 99 рублёў.

Праўда, ёсць у нашым магазіне смятана, малако, кефір, прывозяць тушонку. Дабавім да іх са свайго агарода бульбачкі, цыбулі, морквы, шчаўя — і жыць можна. Толькі вось дзіцяці не забароніш есці ягады з лесу ці садавіну. Дзеці ёсць дзеці.

Вольга Міхайлаўна Цубатава, жыхарка вёскі Барталамееўка:

— Пасля аварыі салдаты пачалі рабіць у нас дэзактывацыю. Але што гэта за дэзактывацыя? Грунт, ламачча, бітую цэглу і шкло збіралі з вёскі і везлі за наш гарод. Усяго за якіх-небудзь дваццаць метраў ад яго могільнік зрабілі. Вецер вее, развейвае ўсё. Дзякуй меліяратарам — рабілі паблізу Бесядзі дамбу, дык усё ў яе перавезлі. Толькі ці не сплыве ўся тая радыяцыя ў Бесядзь?

Ёсць і ў нашай вёсцы несумленныя людзі. Ім кажуць, што нельга з нашага лесу нічога браць. А яны бяруць, ды яшчэ возяць у Гомель на базар. Нашы бачылі на Гомельскім базары жанчыну з Барталамееўкі, якая прадавала там грыбы і чарніцы. А што? Бяруць людзі. На лбе ў яе не напісана, адкуль яна. У апошні час прадаецца ў Гомелі наша бульба і гародніна. Адкульсьці прыязджаюць на машынах, крадуць у саўгасе бульбу і прадаюць. У Гомелі ўсё можна прадаць.

Мясцовыя жыхары гаварылі нам у адзін голас:

— Хочам, каб выселілі нас з вёскі. Тут ужо не жыццё, а прывалле нейкае. А грошы можна знайсці. Узяць толькі адзін наш саўгас. Пасля аварыі пабудавалі збожжаачыстку на 100 тысяч рублёў, два жылыя дамы па 35 тысяч, зрабілі меліярацыю на 400 тысяч і яшчэ збіраюцца рабіць на 300 тысяч рублёў, праклалі асфальт, заклалі падмуркі двух кароўнікаў. А дэзактывацыя ў колькі абышлася? Навошта ўсё гэта? Ці не лепей было б на гэтыя грошы ў чыстым месцы пабудаваць новы пасёлак, куды б мы пераехалі?

І дабаўляюць з жалем:

— Вось у Магілёўскай вобласці па-разумнаму робяць. Кіраўнікі, відаць, смялейшыя, думаюць пра людзей. А наш абком і аблвыканком усё нечага чакаюць, усё глядзяць, што скажуць наверсе. А там, відаць, нашых бедаў не знаюць.

Што ж такое зрабілі ў Магілёўскай вобласці, што чуткі аб гэтым дайшлі нават да Барталамееўкі?

А вось што. 14 чэрвеня 1989 года бюро Магілёўскага абкома партыі сумесна з выканаўчым камітэтам абласнога Савета народных дэпутатаў прынялі пастанову «Аб дадатковых мерах па ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, паляпшэнні радыеэкалагічных, сацыяльна-эканамічных умоў жыццядзейнасці насельніцтва ў зоне забруджвання радыенуклідамі». У ёй гаворыцца, што насельніцтва сельскагаспадарчых раёнаў зоны жорсткага кантролю часткова або поўнасцю пазбаўляецца традыцыйных крыніц самазабеспячэння прадуктаў са свайго падвор'я, сельскі жыхар ператвараецца з вытворцы ў спажыўца сельскагаспадарчай прадукцыі, насельніцтва зоны жыве ў штучна ствараемых умовах, на ліквідацыю вынікаў аварыі затрачваюцца вялікія сродкі. Зыходзячы з таго, што ў зоне жорсткага санітарнага кантролю немагчыма нармалізаваць умовы жыцця і працоўнай дзейнасці, бюро Магілёўскага абкома і аблвыканкома пастанавілі на працягу 1989—1990 гадоў перасяліць групу вёсак, дзе ўзроўні шчыльнасці радыенуклідаў складаюць 60—80 кюры на квадратны кіламетр і больш. На ўгоддзях жа, дзе на квадратны кіламетр 15 кюры і больш, пачынаючы з 1990 года спыніць сельскагаспадарчую вытворчасць і плошчы зняць з уліку. Прычым, мерапрыемствы па дэзактывацыі, аграмеліярацыі, медабследаванні, аздараўленні насельніцтва, вядзенні гаспадаркі і г. д. перанесці на тэрыторыі з больш нізкімі ўзроўнямі ад 5 да 15 кюры/км².

Відаць, у гэтым напрамку трэба ісці і гамяльчанам. Неабходна спыніць гаспадарчую дзейнасць там, дзе шчыльнасць забруджвання складае звыш 15 кюры на квадратны кіламетр. Прычым, рабіць гэта трэба як мага хутчэй, каб дарэмна не разбазарваць народныя грошы. Тыя землі, што выпадуць з сельскагаспадарчага звароту, трэба засадзіць лесам, каб не было спакусы ў некаторых гаспадарнікаў зрабіць іх рэзервнымі для нарыхтоўкі кармоў, каб прадухіліць перанос з іх радыеактыўнага пылу.

...Не так даўно ў Веткаўскім раёне ўзаралі поле, якое не аралі сорак гадоў. Яно было замініравана ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

Цяпер у нас не адно такое поле. І замініравана яно на дзесяткі гадоў наперад стронцыем, цэзіем, плутоніем, і дзесяткі гадоў яны будуць узрывацца біяхімічнымі анамаліямі, ракавымі захворваннямі і г. д.

Трэба адыходзіць ад «паводзін» страуса: хаваць галаву ў пясок, каб нічога не чуць і нічога не бачыць. Трэба чужы боль прапусціць праз сваё сэрца. Падзеленая бяда — бяда напалавіну.

**Ю. ВАРОНЕЖЦАЎ,**
**народны дэпутат СССР, член Камітэта Вярхоўнага Савета СССР па экалогіі і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў;**

**Р. АНДРЭЯВЕЦ,**
**карэспандэнт газеты «Звязда» на меліярацыі Палесся».**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЗА РАЗУМНЫ ДЫЯЛОГ

Пазнаёміўся з апублікаванымі рэспубліканскім друкам матэрыяламі канферэнцыі прадстаўнікоў працоўных калектываў. У іх, у прыватнасці, гаворыцца, што «ўсялякага роду гаварунам, вулічным экстрэмістам, кан'юнктуршчыкам у нейкай меры ўдаецца адцясніць з палітычнай арэны рабочых і калгаснікаў, урачоў і настаўнікаў». Такім чынам, чытаем далей, «па сутнасці справы ідзе вострая палітычная барацьба, барацьба за ўладу». А яна «ёсць канат, які перацягвае мацнейшы, і часта не па мускулах, а па гуку голасу». З гэтых слоў вынікае прызнанне вострай барацьбы ў рэспубліцы як факта. Толькі вось атрымліваецца, што вядзецца яна не па правілах. Перамога, аказваецца, павінна быць не за розумам, а за ўладальнікам магутных мускулаў. І да засмучэння аўтараў прамоў на канферэнцыі, гэтага чамусьці не разумеюць рабочыя, калгаснікі, настаўнікі і ўрачы. Таму яны падымаюць рукі ўгору на голас вулічных гаваруноў. А крыху вышэй там жа напісана: «Чалавек працы... — галоўная рухаючая сіла сённяшніх пераўтварэнняў. Сваю авангардную ролю рабочы клас заваяваў дзякуючы высокай свядомасці і арганізаванасці, адданасці ідэалам Кастрычніка». Дык што ж гэта за рухаючая сіла, якая пасуе перад «усялякага роду гаварунамі, вулічнымі экстрэмістамі» і ім падобнымі «кан'юнктуршчыкамі, арыентуючыся на сілу іх голасу»? А як быць, калі ўдзельнікі мітынгаў — не злачынцы, не абібокі, а сумленныя працаўнікі, што маюць уласную думку аб перабудове, якую іншым чынам, акрамя як на мітынгу, ім не ўдаецца выказаць?

30 кастрычніка я трапіў на мітынг «Чарнобыльскі шлях», аб'яўлены кіраўніцтвам Народнага фронту. Трэба адзначыць, што міліцыя на гэты раз паводзіла сябе паважліва, карэктна. Тое ж можна сказаць і аб удзельніках мітынгу. П'яных і дэбашыраў не было відаць — ім рабіць на інтэлектуальным форуме няма чаго. Цяжка растлумачыць адсутнасць на мітынгу кіраўнікоў рэспублікі. А разумны дыялог менавіта тут быў так неабходны! Выступленне сакратара Белсаўпрофа з інфармацыяй аб «канферэнцыі рабочых» не было ўспрынята, я лічу, таму, што сама канферэнцыя мала што дала.

Неабходнасць спынення ці хоць бы змякчэння канфрантацыі і пачатак непрадузятага дыялога з любымі групамі «фармалаў, нефармалаў» і простых людзей робіцца найпершай неабходнасцю. Будзе лепш, калі моцны бок, г. зн. прадстаўнікі самых высокіх рэспубліканскіх улад, праявяць у гэтых адносінах разумную ініцыятыву, стрыманасць і цярпенне.

**А. САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук, прафесар.**

**У мінулым нумары на пытанні «ЛіМа» адказалі пісьменнікі-публіцысты І. Дуброўскі і Л. Левановіч. Сёння мы знаёмім чытачоў з думкамі, разважаннямі М. Вайцяшонак, Л. Караічава і В. Шырко — на тых пытаннях, якія прапанаваны аддзелам крытыкі:**

**1. Ці ёсць, на Ваш погляд, такія зоны ў грамадскім жыцці, у жыцці наогул, у якія па-ранейшаму публіцысту заглыбляцца «непажадана», а то і небяспечна?**

**2. Ці даводзілася Вам бачыць рэальны плён Вашых выступленняў у друку?**

**3. Ваша думка пра сучасную публіцыстыку, у прыватнасці, рэспубліканскую. Наколькі задавальняе Вас яе ўзровень, яе баявітасць?**

**4. Ваша запаветная пісьменніцкая мара?**



**Марыя ВАЙЦЯШОНАК**

# «І ЗА ГАРОЮ ПАКЛАНЮСЯ»

Лічу, няма такіх зон у грамадскім жыцці, у жыцці наогул, у якія б публіцысту ці нарысісту «небяспечна» было заглыбляцца, загадзя ратуючыся ад непрыемнасцей. Журналіст павінен сам сабе забараняць за ўсё брацца, усюды кідацца, як на заробак. Пісаць крытычны артыкул толькі ў тым выпадку, калі маеш нешта параіць, ведаеш выйсце з праблемы ці хоць проста згадваеш прычыну, што парадзіла памылкі, а не то што, як кажа мой сусед у вёсцы, «даць палкай па мордзе». Пісаць, калі адчуваеш гаркавату асалоду далучанасці да чыйгосьці цяжкага лёсу, калі здольны стаць хоць на нейкі момант побач, поруч — менавіта поруч з тым, *хто брыдка, ганебна заблытаўся* ў справе ці ў жыцці. І нават калі перад табой злачынец, журналіст не з тымі, хто асуджае і хто прагне прысуду, ён адвакат, ён павінен знайсці ў падсуднага прыкметы чалавечага, пакінуць яму сцежку, па якой той змог бы вярнуцца да людзей, высвеціць яму гэтае выйсце надзеяй на яго самога. Дарэчы ўспомніць аднаго знаёмага, ён, кажучы па-вясковаму, сапраўдны бадзяга, не мае ні дому, ні сям'і, аднекуль з Расіі, стары чалавек з рукамі добрага столяра. З хаты ў хату, тое-сёе ладзіць, падымае з зямлі платы, а то і выража, выгафтуе кусок дрэва над акном. Любіць і выпіць. Любіць кінуць-рынуць распачатую работу, з'ехаць некуды і зноў вярнуцца, увесь пасівераны, абабіты, вярнуцца ў гэтую ж вёску — адусюль, як дамоў, як у сям'ю. Ніводная гаспадыня не адважвалася і ахвоты не мела выгаворваць яму, мудра, велікадушна шкадуючы яго, непрытульнага, адзінокага. Стрымлівала і нешта абароннае ў ім, недатыкальнае: прыгожая ганарыстасць, *жаданне выглядаць лепей,* чым ён ёсць. Толькі, бывае, пройдзецца па вёсцы, задраўшы галаў, як стары лось з шыкоўнымі рагамі, нерухомае цела нясе лёгка, як у палёце, адно нагамі перабірае... Але вось адна багатая адукаваная жанчына (купілі хату пад дачу), наняўшы яго ператрасаць, перарабляць, незадаволеная адлучкамі, сказала ў вочы: «Вы маеце кожны дзень два разы мясное і чай салодкі з бутэрбродам...» Вёска, даведаўшыся, сцішылася, абмерла, бо не толькі карміла яго за працу і давала зарабіць на гарэлку, але і песціла, на нешта няўцямна спадзеючыся, гадавала яго тую прыгожую ганарыстасць. Я бачыла пасля яго балючы, голы, як скальпіраваны, твар... Мы ўсе надта нажыліся, абвыкліся адзін каля аднаго, нас, людзей, шмат — натоўпы на вуліцах, цесна ад радні ў маленькіх кватэрах, а журналісту нічога не выбачаецца, яму кожны чалавек у навінку, ён павінен спадзявацца на справядлівасць, вераваць у яе, і тады заглыбленне ў любую зону нашага жыцця *нікому не зашкодзіць і яму самому* таксама.

Рэальны плён маіх выступленняў, або чым сэрца супакоіш, кажучы па-цыганску. Бэндзеш задаволены толькі седзячы ў «Сельской газете» (маю выпадак сказаць, што не ведаю больш карыснай, самаадданай, ахвярнай працы журналістаў, як у «С. г»), калі крыеш (літаральна) стрэхі ўдовам, лаешся з чужымі мужыкамі, абараняючы жанок, з брыгадзірамі, што не даюць каня, трасешся ў газіку па бездаражжы, каб напісаць, здзівіцца прыгажосці чалавечай і раптам перад новым годам, як і было, пачуць ад рэдактара Коласа, маўляў, з Клецка званілі, сам першы сакратар, казаў, каб супакоілі журналістку, бо ўсё ўжо зрабілі, як хацела, а надта ж яна трывожылася... Стане цёпла, утульна ў жыцці, і ўсяго ў цябе многа, як у мядзведжым вушку...

Праўда, Міхась Замскі ў «ЛіМе" таксама можа бясконца цешыцца, адчуваць задавальненне ад сваёй працы, бо век ходзіць у загрудкі, карчуе благоцце, непарадкі. А так... адны сумненні: а ці спраканала выказаўся, а ці скранецца чыя-небудзь душа — гэтага не ўбачыш, не памацаеш, адным словам, «формируешь общественное мнение». Таму «і за гарою пакланюся» кожнаму журналісту, ніколі не даходзячы, на якім ён узроўні піша і ці баявіта. Бо калі гаварыць пра пісьменнікаў, то, выбачайце, не кожны піша літаратуру, не кожны ўздзейнічае на чытача словам, а журналіст і ад раёнкі амаль бог, абы быў чалавек харошы, міласэрны. То ён у дарозе, то з дарогі, у бойцы, у сварах з некім, скачаны, зацёганы бюракратамі па судах, іншы раз і памыляецца, бо век у спешцы, як гарачага ўхапіўшы. А завалаюць яго катарага ў Саюз пісьменнікаў, то ён амаль па сцяне там ходзіць, быццам астатні грэшнік у храме.

Публіцыстычныя таленты ёсць, іншая справа. што не ўсе яны маюць найбліжэйшы шлях у свет, да людзей, маю на ўвазе тэлебачанне, радыё (кніжка ж пакуль у план, пакуль у друк, з друку). Ці шмат хто ведае, якія гаваркі, цікавы, неспадзяваны ў размове Яўген Будзінас? Мне здаецца, тое, што ім напісана, груба кажучы, як кастра пасля малацьбы (друкуецца на Саюз і з поспехам!), а зерне — гэта яго незлічоныя гаворкі з сябрамі, з калгаснымі кіраўнікамі, пры сустрэчах, па тэлефоне, у дарозе, з незнаёмымі. Яго слухаюць — як пабыць, падыхаць каля вадаспада, грымучага, высокага, ён увесь расходуецца ў гаворцы, любіць слухача, нават патрабуе яго сабе. Чаму ён не мае сваёй трыбуны на тэлебачанні, сваёй дзялкі? Такую ж дзялку на тэлебачанні, на радыё мог мець і стрыманы, крыху *заняты ад* незлічоных нападкаў сваіх «апанентаў» і Анатоль Казловіч. Бракуе, што абодва пішуць па-руску? Дык жа хвараюць, як і ўсе журналісты, за адзіную нашу зямлю, дбаюць аб яе ўрадлівасці, прыгажосці. Чытаю, напрыклад, у часопісе «Беларусь» Пятру Садоўскага, навукоўца, а яго трэба бачыць на трыбуне, чуць вясковую скорагаворку, — як на калёсах з драбінамі едучы па палявой дарозе. Рэдкі талент прамоўцы, рэдкай адукаванасці чалавек (дарэчы, і Вера Сямёнаўна Палтаран гэта адзначала), адной перадачы «Роднае слова» яму мала — нам, слухачам, мала. Хацелася б чуць яго ў спрэчках, ведаць яго меркаванні, адчуваць яго ўпэўненасць. Зайздрошчу студэнтам, якія маюць такую шыкоўную магчымасць слухаць Садоўскага кожны дзень... Ёсць яшчэ імёны, не гаворачы ўжо *пра такія галасы,* як па-бацькоўску пранікнёна-разважлівы, ушчувальны голас шчырага пісьменніка, прамоўцы Уладзіміра Юрэвіча — і не яго аднаго.

Творчая мара, планы? Гэта споведзь, не скажам аб іх у газеце, перад усімі. А калі запыталіся, то толькі жаль узяў, што няма Веры Сямёнаўны, якая б выслухала. Так і бачу праз акенца спавядальні яе ясны, шчаслівы ад маіх воклічаў, плачу, блытаніны твар.

Кожны маркоціцца, кожны сумуе па такім чалавеку.



**Васіль ШЫРКО**

# ДЗЕЛЯ КАРЫСЦІ

Зоны, куды не пажадана сунуць свой дасціпны нос публіцысту, вядома, ёсць.

Не дай божа, і сёння зачапіць (няхай нават неглыбока) парадкі ў арміі, КДБ, міліцыі; падымецца вэрхал: званкі начальству, пагрозы. Адным словам, не лезь, жаба, туды, дзе коней куюць...

У нас можна ўжо разважаць *абстрактна: там* кепска і там, але прозвішча канкрэтнага бюракрата лепш не называй, публіцыст... Народны фронт выпускаў свае лісткі, і ўсё было ціха, пакуль не чапалі канкрэтных асоб. А зачапілі — адразу ж паднята на ногі міліцыя, выламаны дзверы, самвыдат канфіскаваны. І ніхто так і не панёс адказнасці.

Ва ўсе часы, і сёння таксама, публіцыст павінен быць мужным чалавекам, умець пастаяць за праўду. Прывяду прыклад. Былы сакратар ЦК КПБ В. С. Шавялуха загадаў былому рэдактару «Сельской газеты» А. Д. Коласу *падрыхтаваць* паласу пра станоўчы вопыт аднаго з калгасаў Сенненскага раёна. Рэдактар даручыў зрабіць гэта карэспандэнту Іосіфу Сярэдзічу (ён зараз першы намеснік рэдактара газеты «Советская Белоруссия»), той паехаў на Сенненшчыну. Ён унік, разабраўся і напісаў... рэзкі, крытычны матэрыял пра паказушнікаў *і паказуху, пра ліпавыя* паказчыкі. Вядома, сакратар ЦК застаўся незадаволены, загадаў не друкаваць артыкул, і тады Іосіф Сярэдзіч напісаў пісьмо... Пятру Міронавічу Машэраву. Паслаў тое пісьмо разам з артыкулам. І праўда перамагла — нават у тыя застойныя часы.

Пэўна ж, прыемна, калі ад тваёй публікацыі ёсць канкрэтная карысць канкрэтным людзям. Неяк у рэдакцыю газеты, дзе я працаваў у аддзеле пісем, прыйшоў ліст з Салігорскага раёна. Пісаў малады брыгадзір, выпускнік сельскагаспадарчага тэхнікума. Гэта быў крык аб дапамозе. «Калі і пасля пісьма ў рэдакцыю нічога не зменіцца,— пісаў ён,— то я скажу прама: няма на нашай зямлі праўды. Чацвёрты месяц па віне дырэктара саўгаса я без работы, жонка сядзіць з маленькім дзіцем, няма грошай на малако, прадаём сваё адзенне, абутак...»

Я паехаў у Салігорск. Падрыхтаваў артыкул. Ён яшчэ не выйшаў з друку, а ўжо званілі рэдактару, намесніку, скардзіліся на аўтара. Калі і гэта не памагло — прыехаў чалавек ад дырэктара саўгаса, прапанаваў дзесяцікратны ганарар, банкет у рэстаране, толькі б я пагадзіўся не друкаваць свой матэрыял.

«А хто заплаціць брыгадзіру? А хто пашкадуе яго жонку, дзіцё?» — спытаў я.

Маўчанне. Артыкул быў неўзабаве надрукаваны. Брыгадзіра аднавілі на рабоце, дырэктар саўгаса атрымаў вымову і выплаціў са сваёй кішэні 600 рублёў маладому спецыялісту — дваццацікратны мой ганарар.

Старшыня калгаса са Смаргоні купіў у Мінску ў «Інтурысце» паношаную «Волгу» для сваёй гаспадаркі за 800 рублёў. Праз два месяцы прадаў яе праз камісійны магазін за гэтыя ж грошы. І хто стаў шчаслівым уладальнікам «Волгі»? Ну вядома ж, ён — *старшыня!* Пасля выступлення ў газеце машыну забралі. Як кажуць, хіцер Зміцер...

Гэта прыватныя выпадкі. Але *калі ад публіцыстычнага выступлення* ў газеце, часопісе, па тэлебачанні ці радыё ніякага плёну, то цана яму грош у базарны дзень. Неяк Святлана Алексіевіч (я быў сведкам) спытала ў знаёмага журналіста, які жанр яго артыкула ў газеце. Той, вокам не міргнуўшы, адказаў: «Ганарарны!»

За апошнія гады рэзка змянілася наша рэспубліканская прэса. Шмат цікавых артыкулаў, нарысаў. На вачах вырас тыраж газеты «Звязда». Шмат маіх знаёмых сталі падпісчыкамі «ЛіМа». Штотыднёвік ім падабаецца за шчырасць, за вастрыню праблем, якія ўздымаюцца на яго старонках. Ёсць цікавыя публікацыі ў «Мінскай праўдзе», маладзёжных газетах, радуе «Трактор» сваімі старонкамі на роднай мове...

І ўсё ж часта сорамна за нашу рэспубліканскую прэсу. Надта ўжо шмат арганізаваных выступленняў. Адбыўся мітынг на стадыёне «Дынама», а назаўтра дружна з'явіліся негатыўныя водгукі.

Адзін журналіст расказваў, як ён арганізоўваў водгукі працоўных на прысваенне звання Маршала Савецкага Саюза *Леаніду Ільічу Брэжневу. Вельмі* ж ужо «рады» былі людзі, што Генеральны сакратар стаў маршалам. І смех, і грэх. А чаму і сёння не адгукнуцца на просьбу пашчыпаць нефармалаў? І адгукваюцца, нават прафесары.

А наконт мары — хачу, каб усюды ў нас у рэспубліцы гучала родная мова. Каб беларусы адчулі сябе нарэшце беларусамі.

# АХВЯРЫ «ВЯЛІКАГА ПЕРАЛОМУ»

(Працяг. Пачатак на стар. 5.).

засведчыў сваю безумоўную адданасць народжаным сталіншчынай кіраўнікам, якія растапталі ўсе агульначалавечыя маральныя нормы.

Дарэчы, гэтая вобразная паралель (Роўбу яго загоншчыкі абкладваюць, як мацёрага ваўка ў час аблавы на драпежнага звера) зусім не выпадковая дэталь. Яна нясе ў сабе шэраг глыбокіх асацыяцый, у прыватнасці, дазваляе звязаць «Аблаву» з «Воўчай зграяй» (1974). У той аповесці чалавека (партызана Колабава) па законах звярынага палявання акружалі галодныя ваўкі. Праўда, расправіліся з ім не яны, а ўзброеныя фашысцкія карнікі. У «Аблаве» ў ролі лютай звярынай зграі аказваюцца паралізаваныя Вялікім Страхам людзі.

Такім чынам, у «Воўчай зграі» з чалавекам расправіліся фашысты, якія аказаліся небяспечнымі больш за галодных ваўкоў. У «Аблаве» ў балотную твань заганяюць Роўбу свае ж аднавяскоўцы. Так нараджаецца адчуванне, што сталіншчына з яе бесчалавечнасцю — гэта той жа фашызм. Сёння гэтая думка ўжо выказвалася і ў пісьменніцкай публіцыстыцы. А яшчэ раней яна прагучала ў рамане Дж. Оруэла «1984», які толькі нядаўна апублікаваны ў нашай краіне.

Васіль Быкаў усёй сваёй творчасцю змагаецца за чалавека, за чалавечае ў ім, супраць людской «падоначнасці». Добра адчувае ён і трагедыйныя аспекты, якія жорсткі час сталіншчыны ўносіў у народнае жыццё. Але з такім напалам пачуццяў,

Леў КАРАІЧАЎ

# ДАПАМАГЧЫ ЧАЛАВЕКУ



Перш-наперш хацелася б падзякаваць штотыднёвіку за магчымасць выказацца, за ўвядзенне такой рубрыкі. На маю думку, яна павінна быць у кожным нумары.

Гісторыя сусветнай літаратуры ад старажытнасці да нашых дзён сведчыць, што лепшыя яе ўзоры ствараліся літаратарамі па клічу свайго сэрца, свайго сумлення і аніякіх абмежаваных зон для іх не было. Адзіная мэта — дапамагчы чалавеку стаць Чалавекам. Але і душа творцы павінна быць высакароднай і смелай. Талент — само сабой.

У другога ж аўтара гэтая душа маленькая, талент дробны. самаадукацыяй сябе не абцяжарвае, зрок вузкі — і нязменнае жаданне не прамазаць пры выбары групоўкі. І калі такі аўтар сам сабе пазначае зоны, куды яму зазіраць, а куды не, тады літаратура канчаецца і пачынаецца нешта іншае. Да таго ж — у яго неабмежаваныя прэтэнзіі. Паспрабуйце доказна пакрытыкаваць яго творы, сказаць, што займаецца не сваёй справай — адразу адчуеце ўздзеянне ягонай «зоны». А калі ён пры пасадзе, пры розных званнях альбо лідэр якой-небудзь групоўкі — тут і казаць няма пра што.

А колькі розных памылак і ў грамадскім жыцці і ў гаспадарчым за апошнія гады — і якіх драматычных. трагічных! Чаму ў прэсу не прабіваецца іх крытычны аналіз? Маўляў, плюралізм. Але ж пры ўсім плюралізме перадусім — інтарэсы народа, інтарэсы пераважнай большасці. Як сёння давесці да розуму кожнага і перш за ўсё плануючых органаў, што будаваць гідрастанцыі на раўнінах, заліваючы вадой мільёны гектараў карысных зямель — нельга, і пакуль не позна, ад тых станцый трэба пазбавіць рэкі. Як пераканаць, што такія АЭС, якія мы маем сёння, неабходна паступова дэманціраваць? Што разбураць, засмечваць, забруджваць лепшыя землі рэспублікі, здзекавацца над рачнымі поймамі — гэта злачынна. Што ў сельскіх Саветах народных дэпутатаў і ў іншых вышэйшых, у партыйных камітэтах і ўстановах павінны быць лепшыя людзі зямлі беларускай, а не тыя, хто лепей маўчыць і механічна галасуе за ўсё, што яму прапануюць. Як толькі публіцыст паглыбіцца ў кожнае такое пытанне, адразу адчуе і ўздзеянне «зоны».

Сёння ў публіцыстыку актыўна пайшлі і гісторыкі, і эканамісты, і філосафы, і палітычныя аглядальнікі. Сярод іх ёсць і такія, якія кожны раз мянялі свае светапогляды адпаведна палітычнай сітуацыі. Апошнім часам яны не толькі прабіваюцца на старонкі друку, на экран тэлевізара, але мараць і аб значку народнага дэпутата. Чытачу ці гледачу ля экрана тэлевізара бывае цяжка разабрацца ў гэтых плынях, канцэпцыях, платформах. Кожны публіцыст, калі ён *«б'е»* па іншадумцах, канечне, выкліча агонь у адказ. Ці трэба гэтага баяцца? Тут усё залежыць ад жыццёвай пазіцыі, сумленнасці, смеласці. Дарэчы, усё гэта можна сказаць і ў адносінах да таго ці іншага выдання. Так што такія зоны ёсць, думаю, што будуць і надалей, і заглыбляцца ў іх публіцысту не толькі пажадана, але неабходна. Сапраўдная публіцыстыка абвастрае зрок грамадства.

Адказваць на другое пытан не цяжка, бо могуць абвінаваціць у нясціпласці. І ўсё ж. Калі пісьменнік піша артыкул і не *спадзяецца на карысць ад яго* — то навошта пісаць? Толькі калі ўпэўнены, што твае словы знойдуць водгук у душах людзей, — гавары. І безумоўна, каб не бачыў рэальнага плёну ад выступленняў у друку, не займаўся б публіцыстыкай. Бачу плён і ад работы разам з іншымі членамі секцыі нарыса і публіцыстыкі СП БССР. Наша секцыя першай выступіла супраць будаўніцтва ў Валожынскім раёне «парку цудаў» коштам у некалькі мільярдаў. Ёсць надзея, што ўратуюцца не толькі народныя грошы, але і прырода. Правялі выязное пасяджэнне на возеры Нарач. Пасля чаго з'явіўся шэраг артыкулаў і публікацый у рэспубліканскім і саюзным друку, да стану нашага славутага возера прыцягнута ўвага грамадскасці, урада рэспублікі. Даводзілася неаднойчы ездзіць па Палессі, плаваць па Прыпяці, удзельнічаць у шэрагу нарад і ў Драгічыне, і ў Пінску, і ў Жыткавічах. Па ініцыятыве секцыі ў Саюзе пісьменнікаў прайшлі нарады з удзелам вучоных, меліяратараў, кіраўнікоў розных рангаў і розных галін народнай гаспадаркі па экалагічных праблемах. Плён ад таго — рэальны, канкрэтны. Палепшыцца самаадчуванне Прыпяці, Палесся, не будзе даваць шкодную прадукцыю, атручваць ваду і наваколле новы завод у Драгічыне, лепшым стане здароўе Нарачы. Пакуль гэта некалькі кропель. Але ж кропля да кроплі — і сцяна абыякавасці і раўнадушша разбурыцца. Рэзананс набыў наш сумесны артыкул з віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук БССР Іванам Ліштванам па праблемах аховы прыроды. Ен быў надрукаваны ў «Советской Белоруссии» і называўся «Ради жизни».

Што тычыцца сучаснай журналістыкі, у прыватнасці, рэспубліканскай — то стан яе не задавальняе. Па-першае—засмучае адсутнасць новых імёнаў. Па-другое — вельмі мала *сапраўды вострых, доказных* выступленняў па праблемах навакольнага асяроддзя, па эканамічных, гаспадарчых і іншых. Адным словам — аб нашым жыцці. Я разумею, гэта залежыць не толькі ад пазіцыі аўтараў, але і ад рэдакцыі таго ці іншага выдання.

Пра што пісьменніцкая мара? Каб ніколі не было сорамна ні за адно надрукаванае слова, ні за адзін сказ. Каб п'есы, апавяданні, артыкулы былі цікавыя чытачу і сёння, і праз шмат гадоў. Каб грамадства зразумела, што яно—сіла неадольная і не дазволіла нікому ніколі выкарыстоўваць сілу сваю на разбурэнне, на бяду, а толькі на стварэнне, на шчасце.

---

**з такой абвостранай трагедыйнасцю пра нашы самыя пакутлівыя болі той пары, здаецца, не пісаў яшчэ ніхто, і ён сам у тым ліку. А гэта азначае, што аповесць «Аблава», у якой уся вобразная тканіна ад пачатку да канца адухоўлена страсна сцверджанай думкай пра выключную важнасць гуманістычных пачаткаў у жыцці чалавека і грамадства, бо не** ***безаглядная*** **жорсткасць, не лютая злосць і дурная падазронасць, а** ***толькі*** **дабрыня і чалавечнасць, вельмі шырокае людское ўзаемаразуменне могуць выратаваць сам род людскі, — гэтая аповесць адкрывае нам у нечым вельмі істотным новага Быкава, паказвае, якія вялікія рэзервы мае яго магутны, вельмі чулы да часу і чалавека і гранічна сумленны талент.**

---

**Як ужо ў «ЛіМе» паведамлялася, у Доме творчасці «Іслач» адбыўся дзесяцідзённы семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры на мовы народаў СССР. На яго прыехалі: Уладзіслаў Арцёмаў, Галіна Грыбоўская, Пётр Кошаль, Вячаслаў Казакевіч (Масква), Улдзіс Берзіньш, Таірыд Руліс (Латвія), Эмілія Легутэ, Она Міцкявічутэ (Літва), Пауль Мыцкюла (Эстонія), Сурэн Мурадзян, Карынэ Халатава (Арменія), Нана Гапрындашвілі, Нугзар Каберыдзе (Грузія), Алібек Малаеў (Казахстан), Гаўхара Нарматава, Надзір Нарматаў (Узбекістан), Агульнабад Чарыярава (Туркменія), Анатол Чакану (Малдавія), Аляксандр Пухаеў (Паўднёвая Асецыя). Да семінарскіх заняткаў падключаўся і польскі літаратар-перакладчык Чэслаў Сенюх, які ў гэты час жыў у Доме творчасці па пуцёўцы Літфонду.**

# Пад знакам узаемнасці

Мне давялося мець дачыненне да папярэдніх аналагічных сустрэч, а таксама да дзесяцідзённага семінара перакладчыкаў нашай літаратуры на замежныя мовы, праведзенага два гады назад. Калі сустрэчы перакладчыкаў народаў СССР нагадвалі нарады, зрэшты, яны так і называліся — нарада, сімпозіум, то семінар замежных перакладчыкаў адпавядаў сваёй назве. Ён уключаў у сябе не толькі сустрэчы і дыскусіі з беларускімі пісьменнікамі і перакладчыкамі, знаёмства з літаратурнымі мясцінамі, але і пэўны курс лекцый пра гісторыю нашай культуры, літаратуры і мовы. Захоўваючы ўвогуле такі падыход, мы на гэты раз большую ўвагу ўдзялілі творчым сустрэчам з літаратарамі і пытанням мастацкага перакладу. На адкрыцці семінара выступіў першы сакратар праўлення СП БССР Ніл Гілевіч, старшыня секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей Вячаслаў Рагойша, сакратар праўлення СП БССР Васіль Зуёнак, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў, старшыня секцыі прозы Вячаслаў Адамчык, намеснік *загадчыка ідэалагічнага* аддзела ЦК КП Беларусі Анатоль Бутэвіч. Асобная гаворка адбылася з народным паэтам рэспублікі, старшынёй праўлення СП Беларусі Максімам Танкам, празаікам, сакратаром праўлення Алесем Жуком, галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» Сяргеем Законнікавым, галоўным рэдактарам часопіса «Нёман» Анатолем Кудраўцом. Творчую сустрэчу з перакладчыкамі меў народны пісьменнік **Беларусі Янка** Брыль. Аб працы над перакладамі твораў Аляксандра Блока расказаў Сяргей Грахоўскі. (Яму было зададзена таксама шмат пытанняў, звязаных з драматычным лёсам паэта, з яго знаходжаннем у сталінскіх лагерах).

Удзельнікі семінара сустрэліся ў Доме літаратара з беларускімі перакладчыкамі. У гаворцы прынялі ўдзел Васіль Зуёнак, Вячаслаў Рагойша, Галіна Шарангові́ч, Барыс Сачанка, Сяргей Панізнік, Аляксандр Пухаеў, Пётр Кошаль, Пауль Мыцкюла, Эмілія Легутэ, Чэслаў Сенюх.

Хочацца выдзеліць выступленні крытыкаў, літаратуразнаўцаў, мовазнаўцаў, якія прынялі чынны ўдзел у семінары. Вось тэматычны абсяг гаворкі, якая вялася на семінары: «Беларуская мастацкая культура на сучасным этапе» (доктар філасофскіх навук У. Конан), «Асноўныя этапы развіцця беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (загадчык кафедры беларускай літаратуры БДУ, член-карэспандэнт АН БССР А. Лойка), «Асноўныя этапы беларускай савецкай літаратуры», «Беларуская сучасная проза» (прафесар БДУ Д. Бугаёў), «Беларуская сучасная паэзія» (кандыдат філалагічных навук Т. Чабан). Лекцыю «З гісторыі беларускай літаратурнай мовы» прачытаў загадчык кафедры беларускай мовы БДУ прафесар Л. Шакун, на тэму «Вытокі і лёс беларускай мовы» выступіў дацэнт БДУ В. Красней. Аб некаторых асаблівасцях перакладу прозы гаварыла крытык Ю. Канэ, *паэзіі* — літаратуразнавец А. Яскевіч.

Выступленні вучоных, пісьменнікаў, часта перарываліся пытаннямі, ператвараліся ў дыялог, а то і ў дыскусію паміж слухачамі і лектарамі. Наогул, на семінары панавала нязмушаная таварыская, творчая атмасфера. Выявілася, што ў нас, гаспадароў і гасцей, многа агульных праблем — у сферах экалогіі, гісторыі, культуры, мовы. І калі мы раней гаварылі толькі аб узаемаўплыве, то цяпер — і аб узаемаразуменні, аб агульнасці клопатаў.

Галоўная творчая праблема, якая абмяркоўвалася на семінары, — якасць мастацкага перакладу. Пастаўлена многа пытанняў перад рускімі літаратарамі - перакладчыкамі, бо пакуль што творы беларускіх пісьменнікаў выходзяць у сусвет пераважна праз рускую мову і паводле тых перакладаў іншамоўны чытач мяркуе аб узроўні нашай літаратуры.

Востра стаіць пытанне — адзначалася на семінары,— перакладу на нацыянальныя мовы непасрэдна з арыгінала. У прыбалтыйскіх рэспубліках, не кажучы ўжо пра Украіну, беларускую літаратуру перакладаюць з арыгінала. На жаль, мы не можам пахваліцца такімі творчымі кантактамі з рэспублікамі Сярэдняй Азіі і Каўказа, хоць, праўда, першыя ластаўкі на гэтым кірунку там з'явіліся.

Што трэба зрабіць, каб палепшыць справу мастацкага перакладу паміж саюзнымі рэспублікамі? Не апошняе месца тут займаюць семінары (на заключным пасяджэнні ўсе выступаўшыя падкрэслівалі, што цяперашні семінар атрымаўся ўдалы). Патрэбны слоўнікі. Не толькі беларуска-рускія і руска-беларускія, але і беларуска-літоўскія, беларуска-армянскія, беларуска-ўзбекскія... і наадварот: літоўска-беларускія, армянска-беларускія, узбекска-беларускія... (як вядома, у нас пакуль што выдадзены адзіны такі слоўнік — украінска-беларускі). Патрэбны падручнікі, паводле якіх чалавек, які пражывае ў братняй рэспубліцы, мог бы вывучыць нашу мову. Патрэба ў гэтым стала асабліва вострай пасля таго, як у саюзных рэспубліках пачалі стварацца беларускія культурныя таварыствы.

Удзельнікі семінара зрабілі экскурсію па гораду-герою Мінску, наведалі радзіму Янкі Купалы — Вязынку. У Літаратурным музеі Якуба Коласа экскурсію з перакладчыкамі правёў сын народнага песняра Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Як багата наша зямля культурнымі і літаратурнымі традыцыямі, госці пераканаліся ў час экскурсіі па ваколіцах Ракава: мясціны, звязаныя з жыццём і творчай дзейнасцю пісьменніка-дзекабрыста Аляксандра Бястужава-Марлінскага, вёска Палачанка, у якой адно пасляваеннае лета правёў Якуб Колас, мясцовая царква XVIII стагоддзя, касцёл, пабудаваны на пачатку XX стагоддзя, магіла кампазітара IX стагоддзя Міхала Грушвіцкага...

Перакладчыкі прынялі ўдзел таксама ў рэспубліканскім свяце паэзіі, якое прайшло на радзіме Аркадзя Куляшова — у Саматэвічах, што на Магілёўшчыне.

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ.**



Пауль МЫЦКЮЛА (Эстонія), А. КАНДРУСЕВІЧ, Гаўхара НАРМАТАВА (Узбекістан), Сурэн МУРАДЗЯН (Арменія), Ніл ГІЛЕВІЧ.



Ч. СЕНЮХ (ПНР), С. ЗАКОННІКАЎ, А. МАРЦІНОВІЧ.
Фота Ул. КРУКА.

Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ





# ПАЦ

Бо кожны, хто робіць благое, ненавідзіць светлае і не ідзе да святла, каб не выявіліся ўчынкі яго, бо яны благія

ІААН, р. 2., в. 20.

## I

Спякотны, пыльны летні дзень
Умыўся свежасцю вячорнай
І захінуў атолкай зорнай
У небе рэшнюю ірдзень.

Стамлёна спалі мурашы,
Зубры ля хвояў прыкархнулі.
Дый самі хвоі: люлі, люлі —
Сябе загушкалі ў цішы.

Спакойна дыхала зямля,
На свет пускаючы туманы,
Але не спалася тырану
У сценах зорнага Крамля.

«Загусне ноч, абложны сон
Зымжыць бязлітасна павекі...
Каму — на час, каму — навекі...
І ўсім навекі», — думаў ён.

Жуда захмарвала пакой,
З кутоў вымройваліся цені.
Гадзюкі... Чорнае сіпенне
Дашчэнту нішчыла спакой.

Ён зубы сцяў у страшным: «Не!..»
Халодны пот, духмень смуродны —
І ён — не ён — Пацук галодны
Стаіць на шэрым дыване...

«Ты што, брахун, зусім здурнеў?» —
Шапоча хтосьці мне на вуха,—
Ён быў заўсёды гнойнай мухай:
На тым стаяў і тым мацнеў».

«Вар'ят,—шапоча хтось другі,—
Не Пац — рабак дзяржавы-трупа...»
А трэці балабоніць тупа:
«Святы, вялікі, дарагі...»

Пацук не слухаў гэтых слоў,
Ён ціха выбег чорным ходам,
Ён бег пабачыцца з народам,
Што сёння трапіўся ў аблоў.

Там будзе баль на цэлы свет,
Там жыраваць да рання можна.
Пацук праходзіць асцярожна
За кабінетам кабінет.

Затым шпарчэй: Чырвоны пляц,
Дарагамілаўскі магільнік[1] —
Імчыць, спяшаецца вяршыльнік
Народных лёсаў — люты Пац.

Паміж НКУСаўскіх пастоў,
Па бездарожжы, па дарозе
Мінае потай у трывозе
На брудных сметніках катоў.

Галоднай пасткі прагны рот
Нячутным крокам аббягае
На захад полем, лесам, гаем
Сям-там наўплаў, сям-там у брод.

Хвілінай спыніцца. Змаўчыць.
Суняўшы дых, наставіць вуха,
Кране паветра прагным нюхам,
Зірне ўгару і зноў імчыць.

«Куды? На захад? У астрог?
На ўсход цягнуўся шлях ягоны,
Туды, дзе гінулі мільёны
Сярод тайгі па лягерах».

«Ён век пражыў нібы ў раі,
Вы памыліліся абое,
Яму ва ўласныя пакоі
Ахвяры неслі халуі».

«Усход? Ахвяры? Лагеры? —
Вы ўсе крануліся няўрокам!..»
А Пац тым часам шпаркім крокам
Аббег сялянскія двары,

Замітусіў туды-сюды,
У сэрцы чуючы трывогу:
Ён першы раз згубіў дарогу
За ўсе апошнія гады.

«Няхай бы месяц пасвяціў...
Куды — назад? Куды — наперад?..»
Халодны ночы чорны нерат
Усе шляхі перакруціў.

«Ага, ну вось някепскі двор,
Не дужа бедны, не багаты...»
Пацук наблізіўся да хаты,
У прызбе вынюхаў атвор.

[1] Магільнік у межах Масквы па дарозе на Мінск (зараз не існуе).

Пралез туды, стаіўшы дых,
І, поўны пільнае увагі,
Застыў узрушана ля лагі,
Між лёхаў змрочных і пустых.

Ён не выносіў пыл і бруд,
Яму было зусім няпроста
Сядзець употай пад памостам
І над сабою слухаць люд.

Ён ненавідзеў пацукоў,
Баяўся стрэціць нечакана
Між іх Жахлівага Івана
Ці нейкіх іншых сваякоў...

«Ну не, ты — хлус, а не паэт,
Івана вобраз спархнелы
Ён да жыцця вяртаў умела
І праслаўляў на цэлы свет».

«Калі каго і не жадаў
Сустрэць крамлёўскі «галавасцік»,
Дык гэта бацьку чорных свастык...»
«Ні ты, ні ты не адгадаў!

Жыццё вялікіх з таямніц...»
Між тым Пацук наставіў вуха,
У вочы лезла пацяруха
З гнілых разгойданых масніц.

Смуродам цвіль зрывала нос,
А ён трываў, і толькі словы:
«Замала хлеба... Трэба дровы...—
Злятала быццам бы з нябёс,—

Як пераждыць?.. У пыл сатрэ?
Кладзіся спаць... А я на плечы...
Не плач... У нашым у Зарэччы
Ніхто заўчасна не памрэ...»

«Зарэчча, што ж,— падумаў Пац,—
Яшчэ крыху — і я на месцы,
Душа спяе, трыбух наесца:
Пітва і ежы поўны тац.

Адно — хутчэй, адно — наўпрост,
З'явіўся месяц — дзякуй Богу,
Цяпер не зблытаеш дарогу.
Узлесак, сцежка, поле, мост...

А гэта што яшчэ за гук?
Бурчэнне, шоргат, піск мышыны...
Ага, спынілася машына:
Славуты воран — чорны крук».

Вакно суседняга жытла
Спужаным звонам зазвінела.
Кагосьці вывелі... у белым...
На двор з дзвярнога жарала.

Піхнулі ў кодаб. «Ну, куды?» —
Кіроўца вымавіў сіпата.
«Ды як заўжды — у Курапаты»,—
Азваўся хтосьці малады.

## II

Пачуццё поўнай бездапаможнасці.
Што звязвае цябе з гэтымі моцна аселымі, гаворачымі, вастравокімі целамі больш трывала, чым з якой-небудзь рэччу, скажам, з асадкай для пісьма ў тваёй руцэ? Ці не тое, што ты з іхняй пароды? Але ты не з іхняй пароды...

Франц КАФКА.
30 кастрычніка 1920 г.

«Відаць, на Мінск»,— прамовіў хтось,
І больш ні слова, ні паўслова.
Жудой працятыя наскрозь,
Жанчыны ўздрыгвалі нервова.

Пакутна гледзячы у змрок,
Сядзелі змрочныя мужчыны:
«Вялікі грэх? Няслушны крок?
У чым прычына, ў чым прычына?!»

«Не краў, не браў, не забіваў,
Не біў, не слухаў, не шпіёніў,
Не лез, не тузаўся — трываў»,—
Адчайна білася у скронях.

«Чужых не знала мужыкоў,
Па вёсцы плётак не насіла,
Ішла бяда з усіх бакоў —
Употай моўчкі галасіла».

«...Здымаў царкоўныя званы...»
«...Яшчэ ні разу не раджала...»
«...Без нас малыя, як яны?..»
«...Чыёсь паклёпніцкае джала...»

«...Затым у Крым на Перакоп...»
«...Дзяцей выхоўвалі, расцілі...»

«...Ці там дажнуць апошні сноп?..»
«...У пацалунках беглі хвілі...»

Усе маўчалі, як адзін,
А думкі, думкі не сціхалі
Гаротным енкам з-пад грудзін:
«...Недажылі, недакахалі,

Недарабілі — не змаглі,
Недавучылі — не паспелі...»
«...Няўжо не чуюць у Крамлі?
Ці, можа, там даўно адпелі...

За тры малыя каласкі,
Якія трапіліся ў боты,
Калі спяшаліся такі
І грукацелі абмалотам?..»

«...Хіба за тое, што дзяцей
Вучыў любіць народ і мову...»
«...За словы: «Дойдзем да лапцей
Ад вашых мудрых пастановаў?..»

«...Відаць, таму, што дзень пры дні
Да цёмнай ночы па калгасах.
Дзе пехатой, дзе на кані,
Я нёс палітыку у масы:

— Вы мець павінны пільны зрок,
Сусед — учора, заўтра — вораг,
Ледзь толькі сон, ледзь толькі змрок —
Кулак ладуе ў рулю порах.

Абрэз, граната, пісталет...
Мы сёння маем вопыт горкі...
І грэў мне сэрца партбілет
З кішэні новай гімнасцёркі...»

Імчаў у цемру варанок,
Рыпелі стомлена рысоры,
І ехаў моўчкі каля ног
Пад чорнай лавай Пац мацёры.

Ён бавіў час: ён мераў люд
Адносна веры у збавенне.
Сачыў пакору, гнеў і спуд
Па вуснах, пальцах і каленях,

Шукаў няўпэўнасць па плячох
Халодны позірк пацучыны,
А затрымаўся на вачох
Чарнавалосае дзяўчыны.

Спакой Кеке[1] застыў у іх
І боль Надзеі[1] непакорнай.
Адна нагадвала дваіх,
Прынамсі, так з-пад лавы чорнай...

Яшчэ, здавалася, жывот...
Заёрзаў хтось і ... хвост пад ботам...
Пацук у гневе: «Усіх на звод!
Васіль? Святлана? Якаў?[2] — Хто там?..»

Гамульцы піскнулі крыху.
Машына стала.
Хвост свабодны.
На двор, ва ўгоду трыбуху:
Бяжыць праз дзверы Пац галодны.

[1] Імёны жонак Сталіна.
[2] Імёны дзяцей Сталіна.

У свежасць ночы выбухнула золь
І на нябёсах Бог перажагнаўся.

Панесла рэха: «...што» і следам «...на!»
А рэха стрэлаў біла ў рэха словаў,
І месяц плыў бялей ад палатна,
Так не да месца выгнуты падковай.

Чароды перапуджаных варон
Крычалі страшным крыкам не
вароннім...
— Слабо, сяржант, на трох адзін
патрон?
— Чаму слабо, калі страляць у скроні?

— Тады страляй.
— Паб'емся аб заклад?
— На куфаль піва?
— Лепш на цыгарэты,
Мо прывязуць яшчэ на добры лад
Якога дыпламата ці паэта...

І тут з машыны выпіхнулі трох.
— Глядзі, сяржант, якраз, як мы хацелі.
Тры галавы і — слоены пірог.
— Прымай работу,— вымавіў і стрэліў.

Упала двое: першая — яна,
Дзяўчына, чарнакосая такая,
І ён — стары, на скронях сівізна,
А ў сівізне крывавая крывая.

Сагнуўся трэці. Ірвануў на плот.
— Трымай падлюгу!..
Заспявалі кулі.
Скачок адчаю — і застаўся... бот
Ды кудлакі скрываўленай кашулі.

— Уцёк! Уцёк...
— Ад нас ён не ўцячэ!
— Мы папалюем дружна і на славу.
— Падранак.
— Ледзьве ногі валачэ...
— Дагонім?
— Знойдзем па слядах крывавых...

А ён не бег. «Навошта?» і «Куды?»
Як два платы наўкол павырасталі.
«У іх паўсюль заставы і пасты,
А Бог высока, і далёка Сталін...

Я змог бы раны. Страшнай Праўды груз
Прыціснуў долу, жылы абрывае;
Няўжо такі пірог — увесь Саюз?
Няўжо мацнее той, хто спажывае?

Хто спажывае... Ленінскі урок
Засвоіў добра пераемнік гнюсны:
«Трымай заўжды наўспружаным
курок...»
Хто спажывае... Задрыжэлі вусны.

Ён сеў пад дуб і адпусціў душу,
Уратаваў і вывеў з-пад расстрэлу,
Сказаў: «Ляці... прашу цябе, прашу...»
А ў небе птушка крыллем шамацела...

Двох падарожных згледзелі яго.
Хацеў сказаць па-рымску: пілігрымы,
Але куды там Рыму да таго,
Куды там ІНКВІЗІТАРСКАМУ Рыму.

## III

Людзі кажуць: той вясною
Каля сосен шумных
Стаяў Сталін раніцою,
Думаў свае думы...
...Каля Мінска борам крочыў
На дасвецці сінім.

Анатоль ВЯЛЮГІН.

— Агонь!
— За што?! —
працяты куляй боль
З яшчэ жывым:
— За Сталіна! —
з'яднаўся.

За першай Усебеларускай выстаўкай адбылася 2-я (1927) і трэцяя (1929), якая была дапасавана да 10-й гадавіны БССР. Таму

**«Камітэт меў на ўвазе, з аднаго боку, зрабіць яе магчыма поўным паказам усіх дасягненняў беларускага савецкага мастацтва к моманту юбілейнай даты, а з другога боку, і асабліва адзначыць гэтую дату, вызначыўшы загадзя для мастакоў пэўны лік спецыяльных тэм» (маецца на ўвазе першы сацыяльны заказ на тэму «Праца». — В. Ш.).**

Пасля ўсяго гэтага зусім нечаканай успрымаецца заява ў прадмове да Каталога выстаўкі 1930 г.:

**«Характэрнай рысай гэтай выстаўкі з'яўляецца тое, што мастакі БССР амаль што цалкам адыходзяць ад нацыянал-дэмакратычных уплываў усялякіх адценняў. Яны бачаць сутнасць нацыянальнай формы не ў штучным кансерваванні этнаграфічных прымітываў і не ў сляпым капіраванні графічных элементаў скарынінскай Бібліі».**

Такім чынам, папярэдні этап развіцця мастацтва тут упершыню абвешчаны «нацыянал-дэмакратычным». Але гэта быў толькі пачатак. «Уздым» набіраў сілу, 30-я гады ў развіцці выяўленчай культуры сапраўды сталі «пераломнымі».

Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый» ад 23 красавіка 1932 года паклала канец мастацкім групоўкам. Яшчэ раней у палеміцы з рапаўскай інтэрпрэтацыяй дыялектыкі матэрыялістычнага метаду мастацкай творчасці неаднаразова рабіліся спробы сфармуліраваць метад нашага мастацтва. Прапаноўвалі назваць яго «пралетарскім рэалізмам» (Ф. Гладкоў, Ю. Лебядзінскі), «тэндэнцыйным» (У. Маякоўскі), «сацыяльным» (А. Луначарскі). У перадавым артыкуле «Литературной газеты» ад 29 мая 1932 г. прапанаваны «сацыялістычны рэалізм». Гэты тэрмін на сустрэчы з пісьменнікамі ў Горкага 26 кастрычніка 1932 г. паўтарыў Сталін, пасля чаго ён зафігураваў як «адзіны творчы метад». Зараз аб гэтым метадзе і тэрміне нямала спрачаюцца, у яго аказаліся скептыкі і крытыкі. Ю. Бораў лічыць няўдалым сам тэрмін. На яго думку, сталінскі сацрэалізм — гэта кентаўр, у якім палітычны тэрмін «сацыялістычны» зліты з эстэтычным — «рэалізм» («ЛГ», 1988, 25 мая).

У гісторыі сусветнага мастацтва цяжка знайсці аналогіі ачмурэнню, якое наглядалася ў нашай культуры ў тыя часы, калі гэтага «кентаўра» пад гром апладысментаў кан'юнктуршчыкаў і прыстасаванцаў усіх масцей цягнулі на высокі п'едэстал, кідалі яму пад капыты новыя і новыя ахвяры.

Незлічоныя тысячы ні ў чым не вінаватых людзей пасылаліся на смерць і выгнанне, а ў гэты самы час мастакі «распрацоўвалі» вобраз «роднага бацькі народаў з лагоднай усмешкай на твары з курэючай люлькай у правай руцэ».

Пачаўся раскол ва «Усебеларускім аб'яднанні мастакоў» і яго філіялах; у 1929 г. частка жывапісцаў, скульптараў і графікаў выйшла з «Аб'яднання» і ўтварыла РАМБ (Рэвалюцыйную арганізацыю мастакоў Беларусі). Паводле ўспамінаў Грубэ, члена бюро РАМБа, у яго ўвайшлі Касталянскі, Руцай, Шульц, Лейтман, Бразэр, Тычына. У 1933 г. створаны Аргкамітэт Саюза савецкіх мастакоў БССР. Ліквідаваны ўсе філіялы «Аб'яднання».

**Мастацкае жыццё ў гэты перыяд, вядома, не спынялася, хоць формы яго змяніліся. Паранейшаму Віцебскі мастацкі тэхнікум штогод папаўняў рады жывапісцаў, скульптараў, графікаў, рэгулярна наладжваліся выстаўкі, праходзілі з'езды і пленумы мастакоў, групы творцаў акуратна ездзілі ў калгасы, на прамысловыя аб'екты, бралі шэфства над воінамі, з'яўляліся новыя народныя і заслужаныя мастакі, было нямала ўзнагарод, ордэнаў, медалёў, прэмій, узрастаў (у шэрагу мастакоў) і прафесіяналізм (пра гэта сведчаць лепшыя карціны Зайцава, Мазалёва, Ціхановіча, Ахрэмчыка, Волкава, Красоўскага, скульптуры Глебава, Бембеля, Азгура), — але мала што з вялізнай мастацкай прадукцыі 30—40-х гадоў вытрымала праверку часам, уяўляе сёння нейкую цікавасць, акрамя гістарычнай.**

**У адрозненне ад Масквы і Ленінграда, у Беларусі амаль зусім не было крайніх «левых» фармальных плыняў; апрача «Усебеларускага аб'яднання мастакоў» прыкладна з 1927 г. існавала згаданае аб'яднанне «Прамень», якое, аднак, не мела выразнай творчай праграмы. Тым часам «кентаўр» не толькі заклікаў, але настойваў на неабходнасці «непрымірымай барацьбы з буржуазнай ідэалогіяй». Не знайшоўшы абстракцыянізму, кубізму, постімпрэсіянізму і іншых «ізмаў», вульгарызатары не супакоіліся; сваю «ўвагу» яны скіравалі ў бок «нацыяналізму»: самыя малыя праявы народных, нацыянальных матываў у мастацтве траплялі пад удар.**

Даследчыкі яшчэ не хутка высвятляць, калі, у якіх кабінетах упершыню пачалі складацца чорныя спісы з імёнамі беларускіх інтэлігентаў, дзеячаў навукі, культуры і мастацтва. Якога-небудзь інцыдэнту (зрыў выстаўкі або інш.), які б справакаваў пагром у выяўленчым мастацтве і закруціў махавік страшэннай машыны, не было.

**У 1940 г. М. Керзін пісаў:**

**«У 1928 г. нацдэмы былі разгромлены, але далёка не ўсе. Уцалеўшыя подлыя паслядоўнікі: трацкісты, бухарынцы і буржуазныя нацыяналісты, падманваючы давер партыі, прабіраліся на адказныя пасты і працягвалі сваю паскудную справу: пад выглядам барацьбы з паслядоўнікамі нацдэмаўшчыны яны спрабавалі знішчыць тое здаровае, што было створана клопатамі партыі і ўрада» («Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии». М.-Л., 1940).**

**Каго мае на ўвазе Керзін — невядома, ва ўсялякім выпадку ў 1928 г. ніводзін «нацдэм» у мастацтве яшчэ не пацярпеў. Але, пачынаючы з 30-х гадоў, парушэнні законнасці, адступленні ад сацыялізму і ўсеагульная палітызацыя мастацтва прынялі нябачныя дагэтуль размах і формы. Найбольш жорстка праследавалася ўсё, што мае непасрэдныя адносіны да гісторыі, традыцый, побыту народа Беларусі. Не злічыць старажытных помнікаў дойлідства і выяўленчага мастацтва, якія былі знішчаны. Сярод іх былі унікальныя. Адначасова пачалася «перабудова» музеяў, быў ліквідаваны БДМ. Цалкам спыніліся пошукі і даследаванні твораў старажытнага беларускага мастацтва, а тыя, што былі сабраны ў 20-я гады, навечна (так лічылася) схаваны ў цёмныя запаснікі. Іх месца занялі палотны і скульптуры пераважна рускіх мастакоў. Такім чынам, адна нацыянальная культура скарыстоўвалася як сродак падаўлення другой. Усе абласныя краязнаўчыя музеі ствараліся на адзін манер: адзінымі экспанатамі тут былі пудзіла якой-небудзь мясцовай птушкі (часцей чамусьці савы) ды аднастайныя рады фотакартак ударнікаў і ветэранаў, але не тых, што рабілі рэвалюцыю (як мы зараз ведаем, тыя былі знішчаны фізічна або «грэліся ля вогнішча»), але часам іх суддзяў і мучыцеляў.**

ПЕРШАЙ АХВЯРАЙ сярод дзеячаў выяўленчага мастацтва стаў, здаецца, Мікола Мікалаевіч Шчакаціхін (1896—1940) — асоба незвычайна яркая і таленавітая, з імем якога мы сёння звязваем пачатак сістэматычнага комплекснага вывучэння гісторыі беларускага мастацтва і глыбокай, па-сапраўднаму вострай і публіцыстычнай мастацкай крытыкі.

У 1922—1924 гг. Шчакаціхін чытае ў БДУ лекцыі па гісторыі беларускага мастацтва, курс быў ім упершыню распрацаваны асабіста і ў 1928 г. выпушчаны асобным выданнем. Яго лекцыі на беларускай мове (ёю Шчакаціхін валодаў бездакорна) слухалі А. Бабарэка, А. Дудар, М. Раманоўскі (К. Чорны), М. Улашчык, Т. Забела і многія іншыя. Адначасова Шчакаціхін працуе ў Інбелкульце (1925—1928), а пазней у АН БССР (1929—1930).

«Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» Шчакаціхіна, якія ўбачылі свет у 1928 г. (у прадмове аўтар піша, што сабраны матэрыял для 5 тамоў),— сапраўды гістарычная праца, у якой праблема нацыянальнай спецыфікі беларускай выяўленчай творчасці ўпершыню пастаўлена на навуковы грунт. Асабліва бліскуча напісаны «Уводзіны». Праца Шчакаціхіна, на мой погляд, пераўзыходзіць першыя тамы калектыўнай «Гісторыі беларускага мастацтва» (Мн., 1987, 1988).

Прыкладна ў той час, што і Шчакаціхін, былі звольнены з працы і арыштаваны Я. Дыла, В. Ластоўскі, А. Смоліч, Я. Лёсік, У. Пічэта, У. Дубоўка, Б. Эпімах-Шыпіла, Я. Пушча, А. Бабарэка і іншыя.

М. Шчакаціхіна выслалі з Мінска ў далёкі Белябей (Башкірыя), адарвалі ад нашай культуры, ад працы, якая была для яго галоўным у жыцці. Але на гэтым каты не спыніліся. Перыядычна (звычайна «для прафілактыкі») на святы яго саджалі ў турму, здзекаваліся. Асабліва жорстка здзекаваліся з яго ў вёсцы Кальтаўка, дзе ён апынуўся ў 1937 г. Неўзабаве яго памясцілі ў камеру разам з вязнем, цяжка хворым на туберкулёз. Слабы на здароўе, духоўна надломлены, мастацтвазнавец захварэў сам і ў 1940 г. — у 44-ы гады—памёр у Кальтаўцы. Перад смерцю закончыў у рукапісе працу «Нарысы гісторыі літоўскай манеты XVI — XVII стст.» і паслаў яе ў Эрмітаж. Яе лёс невядомы.

**Знішчыўшы вучонага фізічна, вульгарызатары рабілі ўсё магчымае, каб закрэсліць і яго навуковую спадчыну. С. Вальфсон у брашуры «Навука на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі» цытуе адну з прац Шчакаціхіна, у якой даследчык піcаў: «Як можа здзейсніцца праўдзівае адраджэнне нашай мастацкай культуры, калі адмовіцца ад мінулых яе дасягненняў, калі не мець пад сабою нейкай пэўнай і цвёрдай базы — вынікаў шматвяковай народнай нацыянальна-мастацкай творчасці. Адмовіцца ад яе — гэта значыць адмовіцца ад правамернасці гістарычнага працэсу падысці да яе пытання не з навуковага, гістарычна - матэрыялістычнага пункту погляду, але з бясплоднымі ідэалістычнымі надзеямі». Прывёўшы цытату, Вальфсон даводзіць, што «гістарычныя помнікі» спатрэбіліся Шчакаціхіну, «каб аўтарытэтам навукі замацаваць палітычную тэндэнцыю нацдэмаўскага імпэту на «старажытнасць».**

**«Злачынства» Шчакаціхіна (а разам Каспяровіча і Шлюбскага) бачыцца Вальфсону ў тым, што яны адшуквалі «тыя самабытныя рысы, якімі характарызуюцца пэўныя нацыянальныя элементы ў старадаўняй мастацкай творчасці Беларусі». Шчакаціхін вінаваты ў тым, што адзначыў адметнасць стылю «афармлення чатырохвежавых гатычных цэркваў у Беларусі», напісаў, што «Філіповіч любіць і адчувае беларускую старасветчыну».**

**Яшчэ больш абсурдныя абвінавачванні прыпісваюць яму Л. Бабровіч, І. Шпілеўскі, М. Грынблат, А. Ляўданскі. У згаданай брашуры гэтыя аўтары падпісаліся: «Брыгада кафедры марксізму-ленінізму». Назваўшы сябе «брыгадай», яны прыняліся за Шчакаціхіна і іншых дзеячаў культуры.**

**Крытычны разгляд Шчакаціхіным працы нямецкага мастацтвазнаўцы Іпеля аб беларускім мастацтве (1918) трактуецца згаданымі аўтарамі, як «нацдэмаўская канцэпцыя ў галіне выяўленчага мастацтва». На першай Усебеларускай выстаўцы разам з творамі сучасных мастакоў Шчакаціхін «лічыў неабходным паказаць і старажытнае мастацтва Беларусі». Асабліва небяспечна тое, што даследчык перавыхоўваў мастакоў «у бок, гэтак кажучы, мастацкай беларусізацыі».**

Амаль адначасова са Шчакаціхіным былі рэпрэсіраваны Каспяровіч і Шлюбскі, якія таксама пісалі пра беларускае мастацтва. Першаму належаць працы «Беларускае мастацтва ў Польшчы (XIV—XVI стст.)», «Асноўныя моманты ў гісторыі беларускага дойлідства», «Віцебск як мастацкі асяродак» і інш. У сэнсе прафесіяналізму яны саступаюць даследаванням Шчакаціхіна, але вылучаюцца пранікнёнасцю і неабыякавым стаўленнем да прадмета даследавання.

Пад вокладкамі дзвюх найбольш «грунтоўных» тагачасных кніг па мастацтве на рускай мове — «Изобразительное искусство БССР» (М.-Л., 1932) і «Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии» (М.-Л., 1940) сабраны амаль усе аўтары, якія ў тыя часы пісалі пра беларускае мастацтва: А. Касталянскі, М. Грынблат, А. Далін, М. Керзін, Д. Генін, Н. Машкаўцаў. Вялікімі знаўцамі ў галіне мастацтвазнаўства лічылі сябе С. Вальфсон, І. Гурскі. Акрамя масквіча Машкаўцава — спецыяліста па рускім мастацтве, ніхто са згаданых аўтараў не быў прафесійным мастацтвазнаўцам. Дылетантызм мастацтвазнаўчай крытыкі 30-х гадоў моцна адчуваецца ў артыкулах, напісаных неахайна, без ведання справы, з вялікай колькасцю фактычных памылак (нават у назвах кніг, прац і прозвішчах мастакоў і г. д.). Затое яны ўзбагацілі навуку пра мастацтва нябачанай дагэтуль тэрміналогіяй: «мастак-рвач», «дыверсія», «нацыянал-дэмакратызм у мастацтве», «нацдэмаўская рэцэптура» і г. д.

У публікацыях большасці згаданых аўтараў выразна вылучаюцца дзве тэндэнцыі: па-першае, закрэсліць і ачарніць усё тое, што было зроблена ў 20-я гады; па-другое, давесці, што нічога самабытнага, адметнага, свайго ў беларусаў ніколі не было і быць не магло.

Вось як малюе дзейнасць Інбелкульта І. Гурскі ў прадмове да кнігі «Выяўленчае мастацтва БССР»:

**«Інбелкульт і Наркампрос, калі імі кіравалі нацыяналапартуністы, пасылалі групы мастакоў для замалёвак цэркваў, рознага царкоўнага начыння. Праводзілася думка, што беларуская графіка бярэ свой пачатак ад малюнкаў біблії, перакладзенай на беларускую мову ў XVI ст. езуітам Скарынай; тады ж у Віцебскім мастацкім тэхнікуме і ў Беларускім дзяржаўным універсітэце чытаецца курс аб царкоўным дойлідстве Беларусі. Цэлы рад мастакоў распрацоўвае так званы Скарынаў стыль, пішацца рад карцін, ідэалізуючых дробнабуржуазнага бунтара К. Каліноўскага, пішацца рад партрэтаў езуіта Скарыны...»**

**Да Гурскага цалкам далучаецца Касталянскі, які піша: «Яны («беларускія нацыянал-дэмакраты».— В. Ш.) рупліва займаюцца вывучэннем малюнкаў біблії, перакладзенай на беларускую мову ў XVI ст. езуітам Скарынай, лічачы, што гэтыя малюнкі з'яўляюцца пачаткам беларускай графікі». Ён бачыць крамолу ў кожнай праяве нацыянальнага і пераходзіць да прамых палітычных абвінавачванняў: «Беларускія нацыянал-дэмакраты, абапіраючыся на кулацкую частку вёскі, ідэалізавалі сялянскі арнамент, звязаны з касцюмам найбольш заможных слаёў беларускага сялянства — кулацтва».**

Закрэсліўшы ўсё, што зроблена ў 20-я гг., новыя «брыгады» вучоных усяляк пнуцца паказаць і «новыя заваёвы сацрэалізму ў мастацтве». У «Каталозе асенняй выстаўкі мастакоў БССР» (Мн., 1937) сцвярджаецца, што «пасля знішчальнага ўдару па контррэвалюцыянерах у мастацтве вырасла шырока і выяўленчае мастацтва(...) на чале з вялікім правадыром, другам народаў тав. Сталіным, выступіла ва ўсім бляску і багацце народнай творчасці, багата расквітнелі літаратура, тэатр, музыка БССР».

Каб паказаць росквіт мастацтва «ва ўсім бляску і багацці», трэба назваць канкрэтныя творы. І яны ў згаданым «каталозе» названы. Гэта «вялікая ганаровая праца па афармленні пісьма беларускага народа тав. Сталіну». Як мастацкі твор эпохі, гэтая праца скрозь фігуруе і ў іншых тагачасных публікацыях. Тэкст «Пісьма Сталіну», напісаны вядомымі беларускімі паэтамі, вышываўся сялянамі на шаўковых лістах, якія затым клеіліся на спецыяльны кардон і брашураваліся. Рабіўся спецыяльны, досыць вялікі (прыблізна 70 — 50 см) мазаічны куфар «з дзесяткаў тысяч шматколерных парод дрэва». На яго чатырох сценках былі мазаічныя кампазіцыі «Граніца на замку», «Прамысловасць», «Лявоніха» і інш.

М. Грынблат увогуле не бачыў ніякай розніцы паміж мастацтвам народным, самадзейным і прафесійным. Характэрны ўзор «мастацтвазнаўчага» стылю Грынблата: «Народныя скульптары-рэзчыкі натхнёна ўзнаўляюць любімыя рысы твару таварыша Сталіна...», «Сярод найбольш выдатных прац, якія дэманстраваліся на беларускіх выстаўках народнага мастацтва, укажам бюст таварыша Сталіна».

Усё, што высока ацэньвалася ў часы Шчакаціхіна, аб'яўлялася варожым, шкодным у 30 — 50-я гады.

На першай Усебеларускай мастацкай выстаўцы М. Філіповіч «паказаў карціну «Беларускія сяляне на кірмашы» — таленавітую, выдатна напісаную рэч. Нягледзячы на некаторую фрагментарнасць кампазіцыі, палатно ўражвае настроем, выразным беларускім тыпажом, аднак А. Касталянскі даводзіць: «Мастак адлюстраваў сялянства БССР як прыгнечанае, забітае, прыніжанае. Ідэя карціны супадае з паклёпам беларускіх нацыянал-дэмакратаў, што пралетарская дзяржава таксама душыць селяніна, як царызм».

Філіповіч не быў рэпрэсіраваны, яго выратавала тое, што з 30-х гадоў ён жыў у Маскве, праўда, без прапіскі і без прытулку.

**Трагічны лёс напаткаў віцебскага гравёра Я. Мініна, аб працах якога гаварылася вышэй. На 5-й Усебеларускай выстаўцы ён паказаў кніжны знак, зроблены для Віцебскага краязнаўчага музея. Спецыялісты лічаць яго лепшым у тагачасным мастацтве Беларусі. Экслібрыс неаднойчы адзначаўся ў спецыяльных цэнтральных выданнях. Прафесар С. П. Фарцінскі пісаў аб ім:**

**«Нельга не адзначыць, што мастак злучыў у гэтым кніжным знаку разнастайнейшыя сімвалы, прычым, нягледзячы на іх, як здаецца на першы погляд, несумяшчальнасць, дзякуючы ўдалай кампазіцыі, стварыў прыгожы і змястоўны кніжны знак».**

**Інакш ацанілі мініяцюрны шэдэўр мастака вульгарызатары. Іх «аналізы» мэтазгодна прывесці, каб уявіць сабе «прафесіяналізм» тагачаснай крытыкі. Вось што піша В. Вольскі ў артыкуле «Аб рэцыдывах нацыянал-дэмакратызму ў творчасці мастака Мініна»:**

**«Пра актывізацыю класаварожых тэндэнцый, пра пэўныя рэцыдывы нацыянал-дэмакратычных канцэпцый у галіне выяўленчага мастацтва сведчыць апошняя работа мастака-гравёра Я. С. Мініна, выстаўленая на V-й Усебеларускай выстаўцы. Гэта — гравюра на дрэве, зробленая па заказу Віцебскага дзяржаўнага музея. На гравюры, якая з'яўляецца экслібрысам для бібліятэкі азначанага музею, мы бачым звычайныя атрыбуты нацдэмаўскай сімволікі. На першым плане змешчана фігура сярэднявечнага рыцара ў вайсковым убранні, які сядзіць у задумлівай позе, схіліўшы галаву, каля адной з калон нейкага парталу(...) Ніводзін з азначаных вышэй элементаў кампазіцыі не трапіў на гравюру выпадкова. Не, яны падпарадкаваны ідэалагічнай мэце. Усе яны трапілі на гравюру ў парадку мастацкага выканання пэўнай ідэалагічнай паслядоўнай праграмы. Невыпадкова апынуўся на пярэднім плане і сярэднявечны рыцар, постаць якога нам, дарэчы, добра знаёма (...) Гэты рыцар з'яўляецца сімвалам беларускай буржуазнай дзяржаўнасці. Вобраз яго быў запазычаны нацдэмамі з сярэднявечнага дзяржаўнага гербу Вялікага княства Літоўскага, з так званага гербу «Пагоні» і аднаўлены ім пасля рэвалюцыі на дзяржаўным сцягу Беларускай Народнай Рэспублікі» («Мастацтва і рэвалюцыя», 1933, № 1—2).**

Выкрываючы прыдуманых імі ж самімі «нацдэмаў у мастацтве», вульгарызатары, як кажуць, былі не надта пераборлівымі ў сродках. У ход пусказўся набор штампаў, аднолькава прыдатны для рамана, вершы, карціны мастака, скульптуры, тэатральнай пастаноўкі. Так В. Вольскаму прыдуманы ім жа самім рыцар паказаўся настолькі пераканаўчым доказам «нацдэмаўскай сімволікі», што ён выкарыстаў гэты прыём і ў артыкуле «Аб праявах буржуазнага нацыяналізму ў беларускім сцэнічным мастацтва» («Запіскі Бел. акадэміі навук», Мн., 1934).

**(Працяг на стар. 12).**

**У прадапошні дзень ліпеня 1989 года раніцою — толькі-толькі ўзышло, заіскрылася ў небе сонца — з сталіцы Савецкай Беларусі горада Мінска выехаў аўтобус і ўзяў курс на Брэст. Маршрут гэтага аўтобуса — камфартабельнага «Ікаруса» быў не зусім звычайны: Варшава — Прага — Кракаў — Люблін... Не зусім звычайныя, бадай, былі і пасажыры, што запоўнілі салон, — скульптары, мастакі, гісторыкі, пісьменнікі. Быў сярод іх і я.**

Барыс САЧАНКА

# Па слядах Скарыны




ШТО ПРЫМУСІЛА ўсіх нас адкласці неадкладныя справы, паклікала ў дарогу? Адразу прызнаюся: наш вялікі асветнік — першадрукар Францыск Скарына. Як вядома, набліжаецца яго юбілей — пяцісотая гадавіна. Паводле рашэння ЮНЕСКА гэты юбілей будзе шырока адзначацца ва ўсім свеце. Паколькі Скарына — сын нашай зямлі, то, натуральна ж, і найбольшыя святочныя ўрачыстасці адбудуцца ў нас. Акрамя розных навуковых сесій, сімпозіумаў, «круглых сталоў», вечароў, у сталіцы нашай рэспублікі плануецца адкрыць помнік славутаму палачаніну, які так многа зрабіў не толькі дзеля свайго народа, але і дзеля суседзяў — народаў-братоў. А каб помнік гэты быў варты Скарыны, вырашана было паказаць скульптарам і мастакам мясціны, дзе жыў і працаваў наш вялікі продак. Ды, заадно, і ў гэтых мясцінах па-належнаму ўшанаваць нашага земляка — адкрыць помныя знакі і дошкі, абудзіць цікавасць да яго самога ў чэшскіх і польскіх сяброў.

Кіраўніком нашай дэлегацыі быў сакратар Мінскага гаркома партыі П. К. Краўчанка, ён упаўнаважваўся весці афіцыйныя перамовы з уладамі гарадоў, дзе ў свой час жыў, вучыўся і працаваў Ф. Скарына. Так што наша дэлегацыя, акрамя азнаямляльнага, як бы натхняльна-творчага пачатку, мела і чыста практычныя мэты. Не ведаю, як хто, а я добра ўяўляю, што значыць шукаць сляды Скарыны ў якіх бы там ні было гарадах — лягчэй бадай іголку знайсці ў стозе сена. Спрабаваў я ўжо гэта рабіць, будучы і ў Маскве, і ў Познані, і ў Калінінградзе (былым Кёнігсбергу), ды і ў бліжэйшым да нас Вільнюсе, і ў Полацку. Мінула ж з тых скарынінскіх часоў паўтысячы гадоў! Ды якіх — з пажарамі, жахлівымі разбурэннямі, войнамі. І, седзячы ў аўтобусе, я зноў і зноў як бы перагортваў у памяці старонку за старонкай кнігу жыцця гэтага выдатнага чалавека. Так, і гэта ні ў кога не выклікае сумнення, нарадзіўся ён у Полацку. Але калі? 1490 год, які прыняты быццам за афіцыйную дату нараджэння ва ўсіх адносінах спрэчны. З тых дакументаў, што дайшлі да нас, вядома: ужо «...у зімні семестр у лета гасподне 1504» «Францыск сын Лукі з Полацка» быў «упісаны» ў лік студэнтаў Ягелонскага універсітэта (г. Кракаў). У чатырнаццаць год Скарына студэнт універсітэта?.. Магло гэта быць ці не магло?.. Сёй-той кажа, што магло. І ўсё ж, як мне здаецца, бліжэй да ісціны М. Шчакаціхін, які на падставе вывучэння скарынінскага герба-сігнета даваў іншую дату нараджэння, а менавіта — дзень сонечнага зацьмення 6 сакавіка 1486 года... Не сціхаюць спрэчкі і наконт імя Скарыны — адны схільны прызнаць за правільнае яго напісанне Францыск, іншыя — Францішак... Зусім жа нядаўна называлі яго яшчэ і Георгіем... Словам, і тут не ўсё ясна... Бацька славутага нашага першадрукара быў купец, гандляваў скурамі і футрамі. Меў ён яшчэ аднаго сына Івана. Іван быў старэйшы ў сям'і і пасля смерці бацькі сам стаў купцом... Ну, а Францыск (ці Францішак?) выбраў сабе іншы хлеб. Чаму? Па ўсёй верагоднасці, ён меў іншыя схільнасці, да іншага гарнулася яго душа. І гэта выяўляцца — трэба думаць — пачало рана. Паколькі бацька ў Скарыны быў купец, то можна з упэўненасцю сказаць, што яго дом наведвалі самыя розныя людзі, найчасцей «бывалыя», якія ўмелі размаўляць не толькі па-тутэйшаму. І ці не ад іх малы Францыск атрымаў першыя ўрокі ведаў розных моў, якія потым усё сваё жыццё ўдасканальваў, не забываючы пры гэтым нідзе і ніколі роднае мовы — мовы бацькоў, якая вывела яго ў людзі і дала потым славу і прызнанне іншых народаў. Вядома, была ў яго і школа, вучоба і ў Полацку, і, як некаторыя сцвярджаюць, у Вільні...

Уявілася мне аж надта яскрава, — вось ён, чатырнаццаці-ці васемнаццацігадовы юнак дабіраецца зімою з Полацка ў Кракаў. Тады ж не было яшчэ ні чыгункі, ні такіх, як цяпер, шасэйных і асфальтаваных дарог... Ды і аўтобусы, аўтамабілі не хадзілі — іх яшчэ не вынайшлі вынаходнікі. Трэба было дабірацца на конях, на падводзе ці пеша... Снег, мароз, ды і гурбы ж скрозь... Так што Міхайла Ламаносаў ужо, можна сказаць, паўтараў дарогу нашага славутага папярэдніка... Напэўна ж, Скарына быў апрануты цёпла — магчыма, на ім быў кажух, цёплыя валёнкі, на галаве — шапка-вушанка... І торба ў яго была. Ці — куфэрак. З харчамі, а можа, і з сякімі-такімі кнігамі... Бо кнігі Скарына любіў, не расставаўся з імі ўсё сваё жыццё. Захаваўся дакумент — у час вучобы ў Ягелонскім універсітэце нейкі «Аўгусцін з Вальборджа» «тайна забраў» у Скарыны тры кнігі, і той змушаны быў звяртацца ў суд, каб гэты «Аўгусцін з Вальборджа» яму іх вярнуў... Што Скарына любіў кнігі гаворыць і тое, што ён хацеў, каб іх было больш і імі карысталіся людзі «паспалітыя», гэта значыць, простыя — таму і пачаў перакладаць іх на зразумелую народу «рускую» мову і выдаваць іх спярша ў Празе, потым у Вільні... Торбу ці куфэрак з харчамі і, магчыма, з кнігамі ён нёс за плячыма, а, верагодней, ехала ўсё гэта на падводзе, бо не адзін жа ён выправіўся ў дарогу, а, мусіць, з бацькам ці з іншымі купцамі — вязлі абозам на продаж тавар у той жа Кракаў, ці ў Познань, і захапілі з сабой «студэнта»...

Тры гады вучобы ва універсітэце — і «бакалаўр вольных навук» Скарына падарожнічае па Еўропе, паглыбляючы свае веды па філасофіі, гісторыі, праву, прыродазнаўству, медыцыне, становіцца магістрам, а потым і доктарам вольных навук, працуе сакратаром у караля...

Увосень 1512 г. Францыск Скарына ўжо ў Падуі. Што прывяло яго сюды, у адзін з старажытнейшых гарадоў паўднёвай Італіі, цэнтраў тагачаснай еўрапейскай навукі і культуры? Дакументы, што захаваліся, расказваюць пра гэта даволі падрабязна — «прыбыў нейкі вельмі вучоны малады чалавек, доктар мастацтваў, бедны родам з надзвычай далёкіх краёў, магчыма, на чатыры тысячы міляў і больш ад гэтага слаўнага горада, для таго, каб узвялічыць славу і бляск Падуі, а таксама красуючай супольнасці філосафаў гімназіі і святой нашай Калегіі. Ён звярнуўся да Калегіі з просьбай дазволіць яму ў якасці дару і асобай міласці падвергнуцца з ласкі божай выпрабаванням у галіне медыцыны пры гэтай святой Калегіі. Малады чалавек і вышэйзгаданы доктар носіць імя пана Францыска, сына нябожчыка Лукі Скарыны з Полацка, русін».

Экзаменавалі Скарыну «ў асобым і строгім парадку». Немалаважная дэталь: «ён праявіў сябе настолькі слаўна і дастойна ў час гэтага свайго строгага экзамену, калі выкладаў адказы на зададзеныя яму пытанні і калі абвяргаў прапанаваныя яму доказы, што атрымаў аднадушнае ўхваленне ўсіх прысутных вучоных без выключэння, і было прызнана, што ён мае дастатковыя веды ў галіне медыцыны». Ф. Скарына там жа, у Падуі, быў абвешчаны «ва ўстаноўленым парадку доктарам медыцынскіх навук» і яму былі ўручаны «знакі медыцынскай годнасці»... (Знакамі медыцынскай годнасці ў тыя часы звычайна былі: круглы берэт ці чатырохрогавая шапачка, пярсцёнак, кніга «Афарызмы» Гіпакрата ці Біблія).

Далей у біяграфіі Ф. Скарыны правал — дзе ён жыў, што рабіў? Дакументаў пра гэты перыяд яго жыцця амаль не захавалася. Вядома толькі, што ён быў у Вільні, і, заручыўшыся там падтрымкай Якуба Бабіча і Багдана Онкава, накіраваўся ў Прагу, каб стварыць першае ў гісторыі нашага народа і ўсходняга славянства выдавецтва. І стварыў яго ўжо 6 жніўня 1517 г. ён выдаў «Псалтыр» («повелел...тиснути рускыми словами, а словенским языком»). Там жа, у Празе, у 1517-19 гг. ён пераклаў, пракаменціраваў і надрукаваў «богу ко чти и людям посполитым к доброму научению», яшчэ 22 ілюстраваныя кнігі Бібліі — «Библия руска, выложена доктором Франциском Скориною из славного града Полоцька».

На вельмі плённую выдавецкую дзейнасць Скарыны ў Празе нешта паўплывала, прычым, не лепшым чынам — ці то мор, які пачаўся ў красавіку 1521 года ў раёне Нова-Места, ці то былі нейкія іншыя прычыны, якія прымусілі нашага першадрукара і асветніка пакінуць Чэхію і вярнуцца на радзіму. У 1521 годзе ён стварае «въ дому почтивого мужа Якуба Бабича, наистаршего бурмистра славного и великого места виленского» новую друкарню...

Віленскі перыяд жыцця і дзейнасці Скарыны таксама не вельмі вывучаны. Але вядома: вялікай падтрымкі сваёй наватарскай працы ён не меў, таму, мусіць, і ездзіў у Маскву, мяркуючы арганізаваць там друкарню ці хоць бы знайсці рынак збыту сваёй прадукцыі. Аднак і ў Маскве ён не знайшоў паразумення...

У гэтыя віленскія гады свайго жыцця Скарына жэніцца, бярэ сабе ў жонкі ўдаву купца Юрыя Адверніка Маргарыту. І паколькі выдавецкая дзейнасць не прыносіла жаданых прыбыткаў, ён вырашае прыняць удзел у гандлёвай справе свайго старэйшага брата Івана. Але брат Іван, захапіўшы вялікую партыю тавараў, паехаў у Познань і там нечакана памёр. Скарына кіруецца ў Познань, каб разабрацца, што здарылася з братам ды і які лёс напаткаў яго тавар... Тады ж, у той жа год, памірае і жонка Маргарыта, пакінуўшы Францыску малалетняга сына Сімеона. Сваякі жонкі падаюць на Францыска ў суд, каб адсудзіць частку маёмасці. Даймаюць і братавы крэдыторы. Ратуючыся ад іх, Францыск едзе ў Кёнігсберг пад апеку герцага Альбрэхта. Але крэдыторы знаходзяць яго і там. Францыск змушаны зноў падавацца ў Познань. Крэдыторы не даюць яму магчымасці даказаць сваю невінаватасць і садзяць яго ў турму. Каля дзесяці тыдняў Скарына правёў у вязніцы. І невядома, як бы з яе выйшаў, каб у Познань не прыехаў сын Івана Раман і ў справу не ўмяшаўся кароль Жыгімонт І...

У 1535 годзе Францыск Скарына зноў у Празе... Цяпер ужо як садоўнік-батанік караля Фердынанда І. Там, у Празе, ён быццам і памёр...

Цікава, што асталося сёння ад побыту Скарыны ў гэтым горадзе? Ды і ў тым жа Кракаве?.. Гарады гэтыя ў часе апошніх войнаў не былі так зруйнаваны, як іншыя гарады Еўропы. Праўда, шукаць сляды Скарыны сюды мы едзем не першыя. І ўсё ж...

**БРЭСТ... Ніякіх звестак, што Скарына быў у гэтым горадзе, няма. Аднак тыя кнігі, што ён выдаваў, тут чыталіся. Пра гэта сведчаць дакументы, і, у прыватнасці, тастамент брэсцкага купца, члена магістрата Гурына Федаровіча, у якім ён адпісаў розным асобам і цэрквам кнігі «друку Скоринина»...**

**Пераезд праз мяжу займае нямнога часу — і мы ў Польшчы. З цікавасцю разглядаем вузкія палоскі спелага жыта, ячменю, аўса, зялёныя загоны бульбы, бабкі снапоў — ад гэтага мы адвыклі, жывучы пры калгасным ладзе. Нядзеля — і ніхто нідзе не працуе. У гарадах і ў вёсках людзі тоўпяцца на вуліцах, часцей за ўсё ля касцёлаў. Не вельмі загружана і дарога — ідуць да нашай мяжы і адтуль хіба што магутныя «КамАЗы», на баках якіх напісана: «Совтрансперевозки».**

**Аўтобус наш імчыць хутка — да ста, а то і больш кіламетраў у гадзіну. Прыкладна столькі, колькі ў часы Скарыны праязджалі на конях за суткі. І я думаю, колькі часу правёў ён у дарозе, у раз'ездах. Нездарма ж украінскі гісторык М. Грушэўскі называў яго «вандроўным гуманістам». Полацк — Вільня — Кракаў — Падуя — Вітэнберг — Дакія... Зноў Вільня... Прага... Масква... Познань... Кёнігсберг... Зноў Познань... Вільня... Прага... Другі раз у Прагу ён ехаў не адзін, а з сынам — «малалетнім» Сімеонам... Пасля смерці жонкі Маргарыты, пасля смерці брата, пасля суда са сваякамі Маргарыты, пасля дзесяцітыднёвага сядзення ў вязніцы ў Познані... Страшныя беды абрынуліся і на Вільню, у якой ён жыў: у 1530 годзе пажар, які знішчыў амаль увесь горад, а ў 1533 — жахлівы мор... Скарына ехаў, каб больш ніколі ўжо не вярнуцца на радзіму, якую горача любіў і дзеля якой, здаецца, зрабіў усё, што мог, што было ў яго сілах...**

**Паводле дакументаў, што дайшлі да нас, Скарыну запрасіла ў Чэхію Багемская камора, якой дадзена было заданне самім каралём Чэхіі, Аўстрыі і Угоршчыны Фердынандам І знайсці садоўніка-батаніка. Фердынанд І быў сынам іспанскага караля Філіпа і Ганны Шалёнай. Жаніўся ён з Ганнай, дачкой чэшскага і ўгорскага караля Уладыслава Другога, сына вялікага князя літоўскага, караля польскага Казіміра Ягайлавіча. Фердынанд І, стаўшы каралём Аўстрыі, Чэхіі і Угоршчыны, задумаў заснаваць у Празе сад, які б сваім харазтвом і незвычайнасцю зацьміў вядомыя сады ўсіх іншых каралёў і князёў Еўропы. Дзеля гэтага ён набыў пустынны пагорак на Градчанах, што знаходзіўся насупраць Пражскага замка, за так званым Аленім Рогам, і выпісаў амаль з усіх краёў свету насенне самых незвычайных дрэў і раслін. Фердынанд быў чалавек крутога нораву, грошай падначаленым часта не плаціў, бо іх не надта і меў: войны з Турцыяй апусташалі яго казну. І ніхто асабліва садоўнікам да яго не рваўся. Многія ж і не ведалі, як абыходзіцца з тым заморскім насеннем, што прыбывала пасылкамі да караля. І Скарына наўрад ці згадзіўся б ісці на гэтую службу, каб не абставіны... Яны пасля смерці жонкі і брата Івана, пасля закрыцця друкарні ў Вільні, ды і аплаты даўгоў у Скарыны былі не лепшыя. Натхняла — трэба думаць — ісці на службу да караля хіба можа жонка Фердынанда — каралева Ганна, з якой, па ўсёй верагоднасці, ён быў знаёмы, — была яна з роду беларускіх князёў Гальшанскіх і надта ж цягнулася да асветы, напісала і нават выдала сама адну кніжку. Каралеву Ганну любілі ў Чэхіі, была яна мяккая па натуры і мела спачуванне да пакрыўджаных і абяздоленых, дапамагала ім. Відаць, і Скарына хацеў дапамагчы Ганне: Фердынанд у тым садзе, які павінен быў пасадзіць садоўнік, меркаваў збудаваць летні палац каралеве. Словам, як бы там ні было, а ўжо 22 мая 1535 года Багемская камора паведамляла каралю Фердынанду: «Дарагі сябра. Паколькі ты не раз пісаў нам, што мы павінны накіраваць табе садоўніка для работы ў Празе, дык мы пасылаем табе з прад'яўнікам ліста; ты зможаш выкарыстаць яго пры неабходнасці для арганізацыі новага сада. Мы далі яму на харчы і ўтрыманне 20 фларэнаў, а цябе просім паклапаціцца аб астатнім утрыманні на час яго знаходжання...»**

**Як жыў і працаваў Ска-**

рына на пасадзе садоўніка каралеўскага саду? Сёння пра гэта меркаваць цяжка, хоць і захаваліся некаторыя дакументы. Вось цытата аднаго з іх: «На садоўніка, майстра Францыска [...] ускладзены абавязак працаваць у садзе і выконваць любую працу садоўніка [...] ён працуе таксама мала. Мы бачым яшчэ мала вытанчаных учыненняў, чым ён займаецца ў садзе; і прача італьянскіх дрэў — цытрын, памяранцаў і ім падобных, якія толькі ўзыходзяць, мы нічым асабліва не можам пацешыць Вашай Вялікасці, каб Ваша Вялікасць ведалі пра гэта. З фруктаў няма яшчэ нічога, што можна было б пасдаць Вашай Вялікасці...» Гэта піша таму самаму каралю Фердынанду тая самая Багемская камора 27 чэрвеня 1538 года. У тым самым дакуменце ёсць і іншыя падрабязнасці адносна каралеўскага саду, а менавіта — «расходы на яго даволі вялікія». І звязаны яны былі не столькі з утрыманнем садоўніка, а з выпіскай рознага насення з самых далёкіх краёў і іх аплатай. На будаўніцтва летняга палаца былі запрошаны з Італіі майстры, якія, як паведамляецца, «працуюць, на наша разуменне, няспешна, гультаявата і непаваротліва і любяць часам палодырнічаць», да таго ж, іхні «майстар Ганс дэ Спацiа» «патрабуе і бярэ шмат грошай»... Кароль на гэтае пасланне Багемскай каморы адказаў 4 ліпеня таго самага года. Адказ яго даволі памяркоўны, разважлівы. Ён датычыць італьянскіх майстроў і Францыска Скарыны— «вы павінны... выпрацаваць умовы [...] па дзённай норме ці іншым чынам, як вы палічыце лепшым, а для нас найбольш выгадным, і паспрабаваць выпрацаваць і заключыць гэтыя ўмовы як мага хутчэй і без ускладненняў, аднак каб праца выконвалася хутка, добрасумленна і добра, як належыць, гэта вы павінны зрабіць з вялікім стараннем, а якія ўмовы працы вы агаворыце з названым майстрам Спацiа, паведаміце нам.

А што да майстра Францыска, нашага садоўніка ў Празе, што ён з малым стараннем выконвае працу ў садзе, якую ён павінен выконваць на сваёй пасадзе, дык наш загад, каб вы ад нашага імя з дбайнасцю і сур'ёзнасцю прасачылі за ім, каб ён, паколькі мы спадзяёмся на яго, такую працу ў садзе выконваў больш старанна і па вырошчванні ўсялякіх садовых раслін, і гэтым самым адпавядаў сваім абавязкам і сваёй пасадзе. Калі ж ён і далей не будзе руплівым, дык паведаміце нам аб гэтым і яму скажыце, што ў вас ёсць загад паведаміць нам».

Будаўніцтва летняга палаца каралеве Ганне ішло марудна. У наступным дакуменце той самай Каморы паведамлялася, што «некалькі тыдняў таму назад прыйшоў да нас майстар Паола дэ ла Стэла, каменячос, разам з некалькімі сваімі сябрамі і паведаміў, што ноччу з іх домікаў у садзе былі ўкрадзены і вынесены інструменты і жалязякі, якімі яны карыстаюцца ў працы, і што яны з-за недахопу такіх жалязяк менш будуць працаваць, а больш бяздзельнічаць, пакуль не будуць зроблены іншыя і новыя жалязякі». Злодзеі былі злоўлены, асуджаны, пасаджаны ў турму. «Пасля гэтага ў павучанне іншым і для застрашвання многіх у будучым, усё з-за таго, што яны асмеліліся зрабіць падобнае ў садзе Вашай Вялікасці, учынілі новы суд, назначаны на гары Вайсенберг, за межамі Градчан, і загадалі пакараць на шыбеніцы гэтых чатырох злачынцаў...» Там жа, у тым самым дакуменце, успомнена і імя садоўніка Францыска і вось у якой сувязі. Каралю паведамілі, быццам злодзеі не толькі ўкралі інструменты і «жалязякі», але і знішчылі некаторыя скульптуры і ссеклі дрэвы, на што Камора адказала: «Няхай Ваша Вялікасць не верыць» тым людзям, што такое сказалі ці напісалі, бо, маўляў, гэта няпраўда. «Мы ўсё ж пасля атрымання загаду Вашай Вялікасці запрасілі да сябе майстра Паола, каменячоса, а таксама майстра Францыска, садоўніка, і апыталі іх з гэтай нагоды. Ніводзін з іх нічога пра гэта не ведае, і абодва гавораць, што ніякія скульптуры не разбіты і ніякія дрэвы не ссечаны». Імя Францыска — каралеўскага садоўніка ўспамінаецца і яшчэ ў адным дакуменце той самай Багемскай каморы, датаваным 4 красавіка 1539 года. У гэтым дакуменце паведамляецца, што «прыбыў» «доктар з Фландрыі» «для расшырэння саду Вашай Вялікасці ў яры за мастамі, у якім раней распараджаўся стралок [гвардзеец] Вашай Вялікасці». «Але ён лічыць, што там нічога асабліва пашырыць і наладзіць нельга, па-першае, з-за вузкасці, а па-другое, з-за вады, якая ў час разліву пашкодзіць пасевам і саджанцам, пра што мы таксама непакоімся. Мы лічым, што сад трэба даручыць аднаму з садоўнікаў і гэтым самым сэканоміць расходы, якія ідуць на дваіх; але Ваша Вялікасць усеміласціва змогуць выказаць сваю волю і пажаданні. Гэтаму, згодна з дагаворам, павінны выплаціць ужо за два месяцы... Ён таксама патрабуе грошы і гаворыць, што без грошай ён не можа больш утрымліваць сябе і сваіх работнікаў; тое ж — майстар Францыск, яму аднаму мы павінны да двухсот гульдэнаў. Мы пакорліва паведамляем усё гэта Вашай Вялікасці для таго толькі, каб Ваша Вялікасць дазволілі даць хуткае і неабходнае распараджэнне наконт згаданых грошай».

У тым самым 1539 годзе яшчэ раз успомнена імя Францыска — каралеўскага садоўніка ў афіцыйнай перапісцы Фердынанда І. І вось з якой нагоды: «Па-першае, адносна майстра Францыска, італьянскага садоўніка, Багемскай каморы быў аддадзены наш загад аплаціць яго працу па часе і разлічыцца з ім, і каб вы яго больш не затрымлівалі. Пра ўсё гэта мы апавешчаны дастаткова, таму што ён пасля гэтага прыбыў да нашага двара і затрымаўся нейкі час тут і ў Нойштадце.

Нам паведамілі таксама, што прыгаданы Францыск перад сваім ад'ездам, не прычыніў дрэвам ніякай шкоды; было паведамлена таксама, што памеранцы, смакоўніцы, фігавыя і іншыя дрэвы стаяць у такім жа добрым парадку, як іх пакінулі, чым мы задаволены».

Гэты дакумент напісаны 21 ліпеня 1539 года, гэта значыцца, чатырыста пяцьдзесят гадоў таму назад...

Чаму Скарына не захацеў больш працаваць у каралеўскім садзе? А можа, як цяпер кажуць, «яго не захацелі»? Словы Фердынанда — «аплаціць яго працу па часе і разлічыцца з ім, і каб вы яго больш не затрымлівалі» ўказваюць на тое, што Скарына не хацеў працаваць у каралеўскім садзе і прасіўся яго адпусціць. Значыцца, Скарына сам звольніўся з працы. Чаму? Не задавальняла яго праца садоўніка ці нешта іншае змусіла яго пакінуць службу пры каралеўскім двары? А можа, лепшая праца яму знайшлаея? Ён жа па прафесіі быў медык. Ды і ў каралеўскім садзе чым ён займаўся? Вырошчваў лекавыя расліны, якімі ў той час найбольш і найчасцей лячылі людзей? А ўсё астатняе садзіць і даглядаць... Не так і цікава яму, медыку, было... І калі знайшлося іншае месца, больш па душы, то ён... Папрасіў звольніць яго. Але дзе было тое вольнае месца? У самой Празе? А можа, у іншым якім горадзе?

Наступныя дакументы, што знойдзены ў архівах, і, у прыватнасці, паведамленне храніста В. Гаека пра пажар у Празе 2 чэрвеня 1541 г., наводзяць на некаторы роздум. Храніст В. Гаек у пераліку тых, хто загінуў у гэтым пажары называе хлопчыка Францыска, сына «колішняга доктара Руса», які загінуў «у доме ксяндза Яна з Пухава, прапаведніка...»

Другі дакумент — гэта давераная грамата на [карысць] Сімеона Руса; «Мы, Фердынанд і г. д., абвяшчаем гэтай граматай усіх, што доктар Францішак Рус Скарына з Полацка, які некалі жыў, наш садоўнік, у гэтым каралеўстве Чэшскім быў чужынцам, — сышоў на вечны спакой і пакінуў пасля сябе сына Сімеона Руса і пэўную маёмасць, паперы, даўгі і іншае, яму належнае. І прасіў нас вышэйзгаданы Сімеон выдаць грамату і агульны ўказ на выпадак таго, што калі б ён знайшоў што-небудзь з маёмасці вышэйзгаданага свайго бацькі, то каб яму была выдадзена і аказана дапамога. На такую слушную і пакорлівую просьбу яго ўсім вясковым старостам нашым, бурмістрам, членам магістрата ў гарадах і ўсім іншым нашым падданым у каралеўстве Чэшскім гэтай граматай загадваем, што калі б вышэйзгаданы Сімеон Рус знайшоў што-небудзь з маёмасці, папер, даўгоў, кніг і іншых рэчаў, якія належалі некалі гэтаму ж доктару Францу, бацькі яго, і калі б ён таго што-небудзь дамагаўся або ў віну ставіў, то каб яму як наследніку і сыну гэта выдалі і заплацілі і сапраўды, улічваючы справядлівасць яго патрабаванняў, неадкладна дапамаглі. А па-іншаму не рабіць.

Дадзена ў градзе нашым Пражскім, у чацвер пасля святых Фабіяна і Себасцьяна, лета ад нараджэння сына божага тысяча пяцьсот пяцьдзесят другога...»

Першы дакумент гаворыць, што ў Скарыны быў яшчэ адзін сын — Францішак, які загінуў пры пажары. Як вядома, з Вільні Скарына пасля смерці жонкі Маргарыты выехаў з адным сынам — «малалетнім» Сімеонам. Значыцца, не выключана, што ў Скарыны была другая жонка. Хто яна?..

Другі дакумент гаворыць, што сын Сімеон не астаўся абыякавы да памяці бацькі, шукаў яго «маёмасці, папер, даўгоў, кніг і іншых рэчаў». Чаму раней ён гэтым не займаўся, а заняўся толькі ў 1552 годзе? І дзе падзеўся сам Скарына? Выехаў з Прагі? Але куды? І калі ён памёр? У 1551 годзе, як указваюць нашы энцыклапедыі? А можа, значна раней, між 1539 годам, калі ён звольніўся з пасады каралеўскага садоўніка і 1541 годам, калі ў пажары загінуў яго сын Францішак, як сказана ў паведамленні храніста В. Гаека, «сын колішняга доктара Руса».

Знойдзены яшчэ два дакументы, дзе фігуруе імя Сімеона, сына Скарыны, з якіх вынікае, што ён пераняў прафесію доктара ад свайго бацькі і што ён лячыў «князя Іржыка Чэтла, старшага святара краю Бехінскага» ў Крумлёве? Чаму Сімеон апынуўся там? А можа, ён туды выехаў яшчэ з бацькам? І сляды Скарыны трэба шукаць не ў Празе, а ў тым самым Крумлёве? Ці яшчэ ў якім-небудзь іншым горадзе, у які ад'ехаў Скарына, звольніўшыся з пасады каралеўскага садоўніка?

Словам, думаць ёсць пра што... (Заканчэнне будзе).

## ПЕРАКЛАДЫ

# *Да 175-годдзя з дня нараджэння*

# *М. Ю. Лермантава*

### Міхаіл ЛЕРМАНТАЎ

●

1-га студзеня

Як часта, кінуты натоўпам у палон,
Калі перада мной, нібы праз цяжкі сон,
Пры шуме музыкі і скокаў,
Лапоча ацвярдзелых слоў нуда,
Бяздушных воблікаў мільгае чарада
І масак чмур з прыстойнасцю высокай,

Калі кранаюцца халодных рук маіх
З нядбайнай смеласцю какетак гарадскіх
Даўно нетрапяткія рукі, —
Я, знешне дбаючы пра бляск і мітусню,
Душой лаўлю пагіблых дзён, што ў мроях сню,
Старынныя, святыя гукі.

І ў міг, калі сябе на момант адлучу
Ад мітусні, — я птушкаю туды лячу,
Дзе ў памяці мінулае імгліцца;
І бачу я сябе маленькім хлапчуком,
Мясціны родныя: высокі панскі дом
І сад з разбуранай цяпліцай;

Пад сеткаю зялёнай бросні спіць ставок,
За ім над вёскай з камінοў плыве дымок,
Туман сівее над палямі.
Ступаю ў цёмную алею; праз кусты
Прамень вячэрні б'е, і жоўтыя лісты
Шапочуць ціха пад нагамі.

І дзіўны сум шчымліва цісне грудзі мне:
Я плачу і кахаю, зноў яе —
Тварэнне сноў маіх — кахаю,—
З вачыма, поўнымі блакітнага агню,
З усмешкай ружы, што насустрач дню
Ўстае заранкаю з-за гаю.

Адзін — чароўнай той краіны валадар —
Падоўгу там сядзеў я, поўны светлых мар,
І сёння памяць іх не стыне
У сумненнях цяжкіх, страсных парываннях,
Як астравок жаданы ў грозным акіяне,
Яна квітнее ў іх пустыні.

Калі ж апомнюся, абман я пазнаю,
І мару шум людскі спалохае маю,
На сьяце тым чужую госцю, —
Ах, як мне хочацца іх весялосць найперш
Збянтэжыць і шпурнуць у вочы ім жалезны верш,
Абліты горыччу і злосцю!..

## *Галінка Палесціны*

Скажы, галінка Палесціны,
Дзе ты расла, дзе ты цвіла,
Якіх узгоркаў ці даліны
Ты упрыгожаннем была?

Ці над вадою Іардана
Прамень зары цябе вітаў,
Ці вецер у гарах Лівана
Цябе разгневана гайдаў?

Ці мірныя псалмы чыталі,
Ці пелі песні даўніны,
Калі твае лісты сплаталі
Саліма бедныя сыны?

Ці пальма тая ўсё жывая?
І ці ўсё так з пустыні ў цень
Яна вандроўніка гукае
Зялёнашумна кожны дзень?

Ці ў безвыходнасці расстання
Яна завяла, як і ты,
І ўпала ціха тлом згасання
На пажаўцелыя лісты...

Скажы: набожнаю рукою
Хто ў гэты край цябе занёс?
Ці сумаваў ён над табою?
І дзе сляды няўцешных слёз?

А можа, воін боскай варты
Ён быў, з бясхмарнаю душой,
Як ты, заўсёды неба варты —
Прад богам і перад зямлёй?..

У абярэжнасці цнатлівай
Перад іконай залатой,
Галінка Ерусаліма,
Стаіш на варце ты святой.

Празрысты змрок, прамень лампады,
Бажніца, ціхі крыж у ёй...
Пануе мір, лунае радасць
Наўкол цябе і над табой.

Пераклаў Васіль ЗУЕНАК.

## *Ветразь*

Бялее ветразь адзінокі
У блакітным марыве марскім!..
Чым яго звабіў край далёкі?
Свой бераг неўдаволіў чым?

Сваволяць хвалі—свішча вецер,
І мачта гнецца і рыпіць.
Ах, ён не шчасця прагне ў свеце
І не ад шчасця ў свет ляціць!

Пад ім лазуркам плынь іграе,
Яму шле сонца промень свой...
А ён, мяцежны, бур шукае,
Нібыта ў бурах ёсць спакой!

Пераклала Ніна МАЦЯШ.

## *Прароцтва*

Хачу падзяліцца з вамі, шаноўныя чытачы, маленькім адкрыццём, якое зрабіў, перачытваючы свайго ўлюбёнага паэта Міхаіла Юр'евіча Лермантава.

Сярод класікаў свету ёсць паэты, якія вылучаюцца сваёй варажбоўнай і нават вяшчуннай паэзіяй: Дантэ, Шаўчэнка, Франко, Ібсен, Рыльке... Наш Купала. Так, наш Купала. Угледзьцеся ў яго, палюбіце яго ў сваім народзе, як рускія любяць Пушкіна, палякі — Міцкевіча. І спадуць з Купалы сярмяга ды лапці, у якія яго абуваюць на нашых вачах яшчэ ў школе настаўнікі. Бо іх так выхоўвалі, бо яны вучыліся па падручніках і хрэстаматыях, якія мала чым адрозніваюцца ад падручнікаў па гісторыі Беларусі 30—50-х гадоў.

Магчыма, «Прароцтва» Лермантава я ўспрыняў бы сёння зусім па-іншаму, калі б не адкрылася праўда пра тыя гады. Вядома, трэба аддаць належнае розуму паэта. Ён ведаў, што гісторыя паўтараецца, і можа здарыцца нават так, што твор, у які паэт акрамя фантазіі анічога не ўкладваў, спраўдзіцца, набудзе вялікі сэнс і загадкавасць свайго з'яўлення на свет.

Пра што юны Лермантаў думаў, калі на самым пачатку сваёй творчасці пісаў «Прароцтва» («Предсказание»)? Што яму мроілася скрозь адно стагоддзе?..

Не будзем гадаць. Мы — не прарокі.

ПЕРАКЛАДЧЫК.

Настане год, Расіі чорны год,
Калі заб'е свайго цара народ—
Забудзе чэрнь ранейшую любоў,
І спраўай многіх будзе смерць ды кроў;
Калі жанок ды іхніх сем'яў сон
Не абароніць звергнуты закон;
Калі чума з смярдзючых цел і душ
Заблудзіць у народ, бы ў нетры пушч,
Каб з хат хусцінкай чорнай выклікаць,
І стане па-жывому люд каўтаць;
І полымем заб'юцца хвалі рэк,
А з полымя паўстане чалавек,
І ты яго пазнаеш, нават горш—
Убачыш у руках булатны нож:
І пад нажом, калі застогнеш ты,
Цябе дакончыць смех яго пусты;
І будзе змрочным і жахлівым ён,
І плашч яго і позірк пад чалом.

Пераклаў Анатоль СЫС.

